



# Літаратура і мастацтва

**газета творчай інтэлігенцыі Беларусі**

1 САКАВІКА 2002г. № 9-10/4143-4144 КОШТ 285 РУБ.


## ШАНОЎНЫЯ СЯБРЫ!

***Прыміце сардэчныя віншаванні з 70-годдзем з дня выхаду першага нумара газеты "Літаратура і мастацтва". На працягу дзесяцігоддзяў калектыў "ЛіМа" плённа працуе на ніве нацыянальнай культуры. Газета была і застаецца своеасаблівым летапісам беларускага пісьменства і друку. З часоў заснавання вакол выдання аб'ядноўваюцца лепшыя прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі рэспублікі. На старонках выдання друкаваліся новыя творы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Танка, Івана Мележа, Уладзіміра Караткевіча. У свой час Пётр Міронавіч Машэраў назваў "ЛіМ" "душой літаратуры і мастацтва Беларусі". І зараз на старонках "ЛіМа" адлюстроўваецца ўсё, што адбываецца ў нашай нацыянальнай культуры, а таксама ў культурах нашых суседзяў блізкага і дальняга замежжа. Сёння калектыў "ЛіМа" захоўвае ўсё тое лепшае, што напрацавана ў мінулым і шукае новыя падыходы ў сваім прафесійным і творчым жыцці. Для многіх маладых аўтараў супрацоўніцтва з газетай стала пачаткам іх літаратурнага сталення. Хочацца спадзявацца, што калектыў рэдакцыі сваёй асветніцкай дзейнасцю, плённай працай і ў далейшым будзе ўносіць важкі ўклад у справу захавання культурнай спадчыны краіны. Жадаю супрацоўнікам, аўтарам і чытачам газеты добрага здароўя, творчага натхнення, поспехаў у жыцці і працы.***

**Міхаіл ПАДГАЙНЫ,**
**міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь**

## Усе дарогі вядуць у "ЛіМ"...

*Фота М. ПРУПАСА, А. МАЦЮША, В. МАЙСЮКА*

### БУДЗЬМА РАЗАМ!

*Шаноўныя чытачы!*
*Напамінаем, падпіска на "ЛіМ" на першае паўгоддзе працягваецца. Яе можна аформіць у любым паштовым аддзяленні. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — 1100 рублёў, на тры — 3300 рублёў, на пяць — 5500 рублёў.*

**Індывідуальны індэкс — 63856.**

*Кошт ведамаснай падпіскі на адзін месяц — 2500 рублёў, на тры — 7500 рублёў, на пяць — 12500 рублёў.*

**Ведамасны індэкс — 63857.**

# Шаноўныя спадарыні і спадары!

Прыміце шчырыя віншаванні з нагоды 70-годдзя вашае газеты — выдання, якое першым друкавала і друкуе новыя творы беларускіх пісьменнікаў, распавядае пра культурнае жыццё краіны, знаёміць беларускага чытача з літаратурнымі з'явамі замежжа.

Цешу сябе думкаю, што горад таксама ўвекавечвае славутыя імёны беларускіх пісьменнікаў на сваіх каменных старонках — у назвах вуліц і плошчаў імёны Скарыны і Гусоўскага, Коласа і Купалы, Танка і Броўкі, Глебкі, Лынькова, Караткевіча, Макаёнка... Мінск не шкадуе сродкаў і сілы для таго, каб вуліцы, плошчы, помнікі, мемарыяльныя знакі, музеі, прысвечаныя дзеячам беларускай літаратуры, мелі годны выгляд. У гэтым пытанні мы спадзяёмся на вашую дапамогу, шаноўныя лімаўцы, бо вы маеце вялікія магчымасці для выхавання ў мінчан пачуцця гонару за сваю культуру, беражлівых адносін да гістарычнай спадчыны. Сваімі публікацыямі вы не стамляецеся напамінаць аб дасягненнях беларускай літаратуры і мастацтва, знаёміць свет з новымі яркімі талентамі, а маладых з тымі, чыя творчасць па праву лічыцца набыткам нацыі. Давайце берагчы гэта разам. Будзьма адзінымі ў будаўніцтве квітнеючай Беларусі і яе сталіцы!

З пажаданнямі шчасця і творчых поспехаў

**М. Я. ПАЎЛАЎ,**
**старшыня Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта**

•

*Супрацоўнікі Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы шчыра і сардэчна віншуюць творчы таленавіты калектыў газеты з высокім юбілеем — 70-годдзем з дня выхаду ў свет першага нумара штотыднёвіка.*

*На працягу многіх дзесяцігоддзяў Ваша газета аб'ядноўвае беларускую інтэлігенцыю, мацуе дух беларускай нацыі, свядомасць беларусаў, кансалідуе людзей розных пакаленняў сваім натхнёным Словам.*

*Штотыднёвік прапагандуе ідэі Вялікага Купалы і выхоўвае паслядоўнікаў Песняра на яго творчых традыцыях.*

*Няхай і надалей Ваша газета пашырае колькасць аднадумцаў і прыхільнікаў роднага слова, няхай засявае ніву Веры і Надзеі, на якой узбуяе Беларушчына.*

*Жадаем усім лімаўцам натхнення, святла, здароўя і дабрабыту.*

*Заўсёды з вамі —*

**Купалаўцы**

•

**Жадаю "ЛіМу" даўгалецця, супрацоўнікам — творчых поспехаў і верных сяброў.**

**Рыд ТАЛІПАЎ**

# *Шаноўныя сябры!*

*...Значны ўклад газета зрабіла ў падтрымку гістарычнай духоўнай сувязі паміж нашымі суседнімі, блізкімі народамі, у развіццё сяброўскіх кантактаў паміж творчымі суполкамі абедзвюх краін. Адной з праяў тых сувязяў стане адзначэнне года Тараса Шаўчэнкі ў Беларусі і юбілеяў Янкі Купалы і Якуба Коласа на Украіне. Упэўнены, што да гэтых мерапрыемстваў абавязкова далучыцца газета "Літаратура і мастацтва"...*

**Анатоль ДРОНЬ,**
**пасол Украіны ў Рэспубліцы Беларусь**

•

Сардэчна віншуем з нагоды **70-годдзя з дня заснавання "ЛіМа"** — носьбіта Нашай Культуры і Нашай Мовы.

Жадаем калектыву газеты аптымізму, здароўя, новых творчых дасягненняў на карысць Нашай Бацькаўшчыны.

**Беларускі фонд культуры**

# Дарагія лімаўцы!

Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны шчыра віншуе вас з юбілеем. 70 гадоў, як для чалавека, — узрост сталасці, багатага досведу, мудрасці. Тое ж можна сказаць і пра газету, якую ствараюць і сілкуюць сваім талентам незвычайныя людзі, гатовыя на любыя ахвяры дзеля азнаямлення беларускага люду з багатай палітрай культурнага жыцця нашай незалежнай — хацелася б верыць, што гэта так і ёсць, — Беларусі.

На вашу долю выпаў не лепшы час. Вы, як ніхто, адчуваеце гэта на сабе. Але мы ўпэўненыя, што вашая трывучасць пераможа. З вамі — мільёны. І праўда — наша, беларуская.

Моцна трымайце ў сваіх руках нязгасную паходню святла сваіх папярэднікаў, каб не збочыць з абранага, раз і назаўсёды, шляху.

**Алег ТРУСАЎ,**
**старшыня ТБМ імя Францішка Скарыны**

# "ЛіМу" на 70-годдзе

***Ты — малады, хоць і паважны,***
***Таленавіты і адважны.***
***Ты — беларускі, шчыры, родны,***
***Інтэлігентны і народны.***
***Ты Музам век служыць гатовы,***
***Узнёслы, велічны, вясновы.***
***Табе я рады пакланіцца***
***У твой выдатны юбілей.***
***Жадаю ЖЫЦЬ і каласіцца***
***Штогод, штотыдзень надалей.***

**Твой братка "Вожык"**
26.02.2002 г.

# Дарагія нашы лімаўцы!

Віншуем з цудоўным юбілеем — 70-годдзем!

Гэта юнацкі ўзрост для газеты!

На працягу гадоў Вы аддаяце свой талент, творчы патэнцыял на карысць беларускай культуры і ўсяго грамадства. Дзякуючы гэтаму кожны чалавек мае магчымасць дакрануцца да прыгожага мастацкага слова.

Без "ЛіМа" мы не ўяўляем сваё духоўнае жыццё.

Вас ведаюць, чытаюць, любяць!

Жадаем натхнення, поспехаў, пашырэння кола чытачоў і аўтараў!

**Калектыў Аб'яднання дзяржаўных літаратурных музеяў Рэспублікі Беларусь, Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры**

•

*Віншуем выдаўцоў газеты і жадаем Пісьмянкову мець шчаслівую падкову, весці спраўна "ЛіМузін" год Алесю не адзін.*

**Музейцы-коласаўцы**

# Шаноўныя лімаўцы!

Віншуем з юбілеем. Вам, хто сцвярджае непаўторнасць роднай мовы, літаратуры, мастацтва, і далей заставацца жывым, праўдзівым, моцным струменем беларускасці. Здароўя і доўгага веку ўсім супрацоўнікам.

**Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва**

## Паэтычна-мастацкае віншаванне ад Сяргея ДАВІДОВІЧА



*Любіце "ЛіМ", чытайце*
*без прымусу,*
*Як раіць Пісьмянкоў: зімой і ўлетку!*
*Любіце "ЛіМ", як грэшныя спакусы,*
*Як дзед гармонік любіць і суседку!*
*Любіце "ЛіМ", святы нясіце крыж,*
*"ЛіМ" вас не стоміць,*
*гэта ж не Парыж.*

# Пра "ЛіМ" і пра сябе

***Газетам шанцуе больш, чым людзям. Семдзесят для "ЛіМа" — не ўзрост, а чарговая дата будзённага журналісцка-літаратурнага светаўспрымання ў беларускім часе і прасторы. Людзі старэюць — газеты застаюцца. Пры ўмове, калі не толькі адлюстроўваюць дзень сённяшні, не толькі заглядваюць у будучыню, але і маюць здольнасць памятаць...***

***Пра "ЛіМ" і пра сябе ўспамінаюць яго колішнія рэдактары. Кожнаму з іх мы задалі па два пытанні:***

***1. Якое месца ў Вашым жыцці займае "ЛіМ"?***

***2. Якім Вы хацелі яго бачыць?***

### Нічыпар ПАШКЕВІЧ:



1. Ніколі не імкнуўся ўзначаліць "ЛіМ". У канцы 50-ых заканчваў Акадэмію грамадскіх навук пры ЦК КПСС у Маскве, пачаў задумвацца аб працаўладкаванні. Калі ў чарговы раз завітаў у родны Мінск, спытаў пры нагодзе ў цэкоўскага сакратара па ідэалогіі Шауры: "Што мяне чакае?" Самі сваім лёсам на той час мы не распараджаліся. Кажа: "Вяртайся, без працы не застанешся". Вярнуўся, паспеўшы папрацаваць загадчыкам аддзела культуры маскоўскай "Экономической газеты". На бюро ЦК КПБ ледзь не па загадзе Мазурава стаў рэдактарам "ЛіМа". Пачынаць прыйшлося з нуля. Гаспадарка разбітая, кадраў не хапае, а той, хто застаўся, па кабінетах у шахматы гуляе. Сябра Бярозкін з "Нёмана" ўсё смяяўся: "Як ты тут працаваць будзеш?" А лімаўскі адказны сакратар Аркадзь Марціновіч "супакойваў": "А як ёсць, так няхай і цягнецца!" Натуральна, на гэта пайсці ніяк не мог. Час хрушчоўскай адлігі трэба было выкарыстаць максімальна. Думаю, шанц гэты мы не ўпусцілі. Змянілі воблік газеты, яе змест. Прыйшлі ў рэдакцыю новыя людзі: Анатоль Вярцінскі, Георгій Колас, Алег Сурскі, Генадзь Бураўкін, Рыгор Бярозкін, Пятрусь Макаль, Міхась Стральцоў, Алена Уладзімірава, Барыс Бур'ян, Уладзімір Мехаў... — кадры з нацыянальнымі поглядамі. "ЛіМ" стаў шматпрофільным у адлюстраванні літаратурнага, мастацкага жыцця, стаў сапраўды публіцыстычна завостраным. Распачалі на лімаўскіх старонках дыскусію пра ўвекавечванне памяці герояў і ахвяр Вялікай Айчыннай. Падставы для гэтага былі самыя сур'ёзныя. Трасцянец тады зарастаў быльнягом. Пра Хатынь амаль ніхто не ведаў...

Дзевяць гадоў працы на рэдактарскай пасадзе засталіся ў маёй памяці як самы складаны і супярэчлівы час. Час перабудовы, барацьбы за беларускую мову і культуру. "Звязда", у якой адпрацаваў калісь пяць гадоў, лупцавала нас бязлітасна. За вальнадумства і крытычныя публікацыі даставалася ад ЦК і Міністэрства культуры. Ледзь не да майго звальнення даходзіла. Думаю, ратавала пачуццё ўласнага творчага самалюбства. За "ЛіМ", за сваю пазіцыю заўжды змагаўся. Дапамагла і "Правда", якая заўважыла і станоўча адзначыла ў сваёй публікацыі шчыраванні нашага рэдакцыйнага калектыву...

2. Заўжды спачуваю лімаўскім рэдактарам: горкі гэта хлеб! А таму парада ў мяне адзіная: нічога не рабіце пад дыктоўку! Рабіце ўсё так, як самі разумееце. Не так крыўдна будзе, дый сумленне захаваеце. Гэта — галоўнае!

### Хведар ЖЫЧКА:

1. "ЛіМам" кіраваў з 72-га па 76-ы. Часы Брэжнева, Машэрава. Зараз гэтыя гады ўзгадваюць як застойныя, калі кожная праява жыцця (у тым ліку і лімаўскага) разглядалася з пазіцый партыйных, камуністычных. Так што па пятніцах, калі выходзіў чарговы нумар тыднёвіка, на працу прыходзіў у новенькім касцюме і чакаў, калі паклічуць на "выхаванне" ў ЦК. Клікалі і "выхоўвалі". "ЛіМ" заўжды знаходзіўся паміж молатам і кавадлам — вышэйшымі партыйнымі структурамі і творчымі саюзамі. Ледзь не штодня як першым, так і другім прыходзілася даказваць, што газета мае права на свой стыль, на сваю думку. Таму гады працы ў "ЛіМе" — надзвычайнае напружанне, і



фізічнае і духоўнае, гады барацьбы з хлуснёй і непрафесіяналізмам, гады творчых радасцяў.

2. Для лімаўцаў заўсёднымі галоўнымі якасцямі былі сумленне і аб'ектыўнасць. Не хацелася б, каб сённяшняя газета-юбілярка іх губляла! Няхай тыднёвік застаецца беларускім! Няхай працягвае змаганне за чысціню мовы, бо здзек над ёй у СМІ проста неверагодны. Сачыў за пачаткам зімовай алімпіяды па БТ і жахаўся ад тэлевізійнай рубрыкі "Наперад за перамогай". Ніякага сэнсу! Дзякаваць Богу, праз нейкі час выправіліся, пачалі пісаць "Наперад, да перамогі!"

### Алесь ЖУК:

1. Якое месца ў маім жыцці займае "ЛіМ"? Ды проста яго неад'емная частка! І гэта не дзеля краснага слоўца. Менавіта з палос тыднёвіка (няхай нумар на нумар і



не прыходзіцца) даведваешся пра навіны культуры, у прыватнасці літаратурныя, і бачыш, над чым працуюць калегі. Чытаеш — радуешся і злуешся, хаця добра разумееш, як цяжка рабіць такую газету. Шэсць гадоў рэдактарства "ЛіМам" даюць мне права так казаць.

2. Хацеў бы, каб газета была і разнастайнай, і насычанай інфармацыяй, калі б удалося, то і пра літаратурнае жыццё нашых суседзяў прачытаць. І яшчэ адно жаданне, даўняе і пастаяннае: не заблочвайце "ЛіМ" матэрыяламі на некалькі палос... І галоўнае: нягледзячы на салідны ўзрост, не старэйце!

### Анатоль ВЯРЦІНСКІ:

1. Каб не боязь патэтыкі, то мог бы адказаць адным словам: **лёсавызначальнае**. І зусім не перабольшыў бы...

Вельмі выразна і з добрым, светлым пачуццём згадваецца першая спроба пераступіць рэдакцыйны парог. Гэта быў якраз парог рэдакцыі "Літаратура і мастацтва". Тут адыграў, мабыць, пэўную ролю той факт, што рэдакцыя газеты знаходзілася тады, на пачатку 50-х, побач з Міхайлаўскім скверыкам, ці не на тым прыблізна месцы, дзе зараз размяшчаецца Галоўпаштамт, г.зн. па суседстве з універсітэцкім гарадком, усяго ў некалькіх кроках ад філфака БДУ. Зусім побач, як рукой падаць. Вялікая была спакуса зайсці (хоць, помніцца, лімаўскі парог лічыўся для нас, пачаткоўцаў, вельмі высокім). І вось зайшоў. У рэдакцыі былі якраз на сваіх месцах і галоўны рэдактар Васіль Вітка, і адказны сакратар Іван Кудраўцаў, і літаратурны супрацоўнік Рыгор Няхай. Цікаўна, ветліва, нават цёпла сустрэлі пагутарылі, распыталі, назвалі, у якасці заахвочвальнага прыкладу, Сцяпана Гаўрусёва, які ўжо, здаецца, надрукаваў у іх свае вершы, і яшчэ нават прадставілі... Янку Брылю, які акурат у гэты час таксама завітаў у рэдакцыю. Не



помню, ці паказаў я тады лімаўцам свае вершы, а калі рашыўся паказаць, то які водгук атрымаў, але абставіны сустрэчы, яе атмасфера запомніліся светла, паўтараю, на ўсё жыццё.

Ну, а потым былі, як вядома, як сведчаць біяграфічныя даведкі, — іншыя прыходы да лімаўскага парога (ці, можа, лепей сказаць: на парог). Прыходы ў якасці аўтара і прыходы ў якасці штатнага супрацоўніка. Прыходы першы, другі, трэці. Прыходзіў, пакідаў, зноў вяртаўся... Ёсць верш пра вяртанне ў вершы, у паэзію. Мог бы з такім жа амаль пачуццём ды і ў такіх жа амаль словах напісаць пра "хаджэнне" ў "ЛіМ", пра прыходы на лімаўскі парог.

*Гэта нібы вяртанне*
*ў родныя сэрцу мясціны.*
*Гэта нібы вяртанне*
*ў світанне...*

Гэта насамрэч так. Гэта — як першая і галоўная любоў. Гэта — як наканаванне. Што, дарэчы, адцяняецца яшчэ і тым фактам, што нарадзіліся мы з ім, з "ЛіМам", амаль у адзін і той час, і жывём мы з ім сёння — фантастыка! — на адной і той жа вуліцы — на вуліцы Захарава.

2. Газету робіць, як вядома, пэўны творчы калектыў, які, у сваю чаргу, уяўляе сабой пэўны "асабовы склад", з'яўляецца своеасаблівым жывым арганізмам. І хацелася б, маючы на ўвазе гэта, бачыць "ЛіМ" шчаслівейшым, г.зн. больш свабодным як у ідэалагічным, матэрыяльна-фінансавым, так і ў духоўным сэнсе слова, больш свабодным у вызначэнні і выкананні сваёй высакароднай місіі як "газеты творчай інтэлігенцыі Беларусі".

### Мікола ГІЛЬ:



1. "ЛіМ" стаўся маім лёсам, маім домам, маім жыццём. Пашчасціла трапіць на працу ў рэдакцыю ў далёкім 1961 годзе. За трыццаць гадоў прайшоў тут шлях ад літсупрацоўніка да намесніка галоўнага рэдактара, а на сконе 1990-га быў прызначаны галоўным. Першая палова 90-х гадоў XX стагоддзя — гэта зорны час Беларусі, а таксама й "ЛіМа", і шчаслівейшая для мяне асабіста пара. У штотыднёвіку згуртаваўся слаўны, таленавіты калектыў аднадумцаў. Не магу не згадаць сёння колішніх лімаўцаў, сваіх дарагіх, самаахвярных і надзейных памочнікаў і сяброў, калег і каляжанак Андрэя Ганчарова, Барыса Пятровіча, Юрася Залоску, Міхася Замскага, Жану Лашкевіч, Галіну Каржанеўскую, Юрася Свірку, Людмілу Крушынскую, Рэгіну Бакуновіч, Віталя Тараса, а таксама тых, што і па гэты дзень працуюць у "ЛіМе" і чые імёны на слыху ў чытачоў штотыднёвіка. Мы працавалі, як апантаныя. Мы, здаецца, забываліся на саміх сябе — мы думалі пра газету, мы рабілі "ЛіМ"! Адраджалася Беларусь, паўставаў з небыцця яшчэ адзін вялікі славянскі народ — і "ЛіМ" адгукаўся на покліч часу, а бадай што сам тварыў гэты час, прынамсі — як мага спрыяў гэтаму. Сфальшыўлены заклік "Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!" саступіў месца новаму дэвізу — неўміручай мары беларусаў, выказанай вялікім Купалам: "— Людзьмі звацца!" "ЛіМ" адкрываў схаваныя, забытыя ці занядбаныя імёны, падзеі, факты, з'явы, творы, старонкі гісторыі, выкрываў злачынствы эпохі сталінізму, вынішчэнне інтэлектуальнай эліты нацыі, трагічны генацыд супраць нашага народа цягам стагоддзяў, сцвярджаў права на свабоду, незалежнасць і суверэнітэт Беларусі, на яе годны "пасад між народамі", змагаўся за адраджэнне роднай мовы, яе вяртанне ў школы і ВНУ, за павагу і пашану да яе, абураўся і супрацьстаяў хлусні, паклёпу, інсінуацыям "сваіх" і "чужых" ворагаў беларушчыны, распавядаў і прапагандаваў усё лепшае, што стваралася паэтамі і празаікамі, кампазітарамі і мастакамі, тэатраламі і кіношнікамі, усёй творчай інтэлігенцыяй **ужо** незалежнай краіны пад назвай Рэспубліка Беларусь. І гэта давала добры плён. Да "ЛіМа" пагарнуліся — бадай, як ніколі раней — аўтары і, вядома ж, чытачы. Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі (акурат такі свой статус абвясціла яна пры загалоўку) не замкнулася толькі ў гэтым прафесійным коле. "ЛіМ" стаў сапраўды масавай газетай — ягоны тыраж дасягнуў, дайце сёння гэтаму веры, двух дзесяткаў тысяч асобнікаў. Якія мы былі шчаслівыя! Якія адкрываліся перспектывы! Як верылася ў светлы заўтрашні дзень Беларусі і ўсіх нас! Так, сапраўды, як гаварыў безыменны сучасны класік, тады, на пачатку 90-х, "быў час, быў век, была эпоха"!

2. А сёння... Сёння зусім іншыя век і эпоха, а часу як бы і наогул няма. Быццам спыніўся час. І што пажадаць роднаму "ЛіМу" ў дзень ягонага паважнага юбілею? Якога плёну і якое дарогі ў будучыні? Сітуацыя такая, што застаецца адно горка ўздыхнуць ды памаліцца за тое, каб наш "ЛіМ" змог хоць бы проста выжыць, не сканаць на сваім восьмым дзесятку...

### Уладзімір НЯКЛЯЕЎ:

1. "ЛіМ" у маім жыцці — два гады жыцця. Два няпростыя гады, якія праз сілу даліся... Але не пад юбілей пра тое згадваць.

Цікавей, бадай, вось што...

Гадоў трыццаць таму не ўзялі мяне ў "ЛіМ" на працу. Бралі ўжо, ды я не вычытаў карэктуру, праскочыла памылка — і ў рэдакцыі праявілі прынцыповасць.

Правільна, дарэчы, праявілі, чаго "ЛіМу" не заўсёды хапала.

Засмучонага, пераняў мяне на калідоры Міхась Стральцоў. "Не сумуй, — усміхнуўся, — што ў бур'яне не засеў... — а працаваць я павінен быў у аддзеле, якім загадваў Барыс Іванавіч Бур'ян. — Будзеш ты ў "ЛіМе", нідзе не дзенешся..."

Мінуў час — і на пахаванні Стральцова, над магілай ягонай адбылася ў мяне гаворка з Барадуліным і Бураўкіным, пасля якой я ўзяўся рабіць часопіс "Крыніца".



А ўжо з берага "Крыніцы" масток перакінуўся на бераг "ЛіМа".

Як у ваду глядзеў Міхась Лявонавіч...

2. Хельсінкі, дзе я часова жыву ў часовым жыцці, завалены часопісамі і газетамі. Дзве шаснаццаціпалосныя, лімаўскага фармату газеты — каляровыя на белай-белай фінскай паперы — штодня раздаюць у метро. Без грошай, за так — абы чыталі... І штодня, гартаючы іх, я міжволі згадваю шэрапапяровы "ЛіМ" з першай паласой у дзве фарбы. Газету творчай інтэлігенцыі Беларусі...

Іншым хочацца бачыць "ЛіМ" не толькі знешне, ён даўно патрабуе ўнутраных змен. Роля "ЛіМа" як выдання з публіцыстычнымі акцэнтамі скончылася са з'яўленнем незалежных газет, а ягоная літаратурна-мастацкая функцыя — сёння недастатковая. Я разумеў гэта, ідучы працаваць у "ЛіМ" і мяркуючы зрабіць яго сінтэтычным, больш аналітычна-грамадазнаўчым, чым літаратурным выданнем. Здзейсніць задуманае не ўдалося па розных прычынах — і не ў апошнюю чаргу па той, што сродкі, паабяцаныя на рэарганізацыю газеты, на стварэнне новых аддзелаў (гісторыі, філасофіі, паліталогіі) так і засталіся абяцанкамі. На месцы абяцальшчыкаў (многіх з якіх, праўда, няма ўжо на сваіх месцах) я абяцанкі нарэшце выканаў бы. Мець такое выданне — у інтарэсах *усіх*, незалежна ад таго, хто за што стаіць і хто з кім змагаецца. І патрэбная нейкая прастора, у якой, не б'ючыся, можна было б пра гэта думаць.

Падумайце...

А "ЛіМ" віншую з юбілеем! Шкада, што здалёку...

ПРОЗА

# НАЧНЫЯ ЎСПАМІНЫ

Іван ШАМЯКІН



## Быў час...

Канец 51-га ці пачатак 1952 года — добра не помню. Зіма. Моцны мароз. А мы з Машай на вяршыні шчасця — у асобнай кватэры, якую нядаўна атрымалі, тры добрыя пакоі, праўда, адна нязручнасць — першы паверх, прахожыя ў вокны заглядваюць. Але ўсё роўна — шчасце. Нямногія з маіх калег мелі ў той час кватэры. Ці даўна і я жыў у клапоўніку на прыватнай кватэры, апошнія два гады ў адной кватэры з Аляксеем Кулакоўскім, па два малюсенькія пакойчыкі, а ў нас па трое дзяцей, у яго — хатняя работніца (Ніна Ульянаўна рабіла настаўніцай), у мяне — Машына сястра Клава, студэнтка мединстытута. Дзіўна, як размяшчаліся! І дзяцей рабілі. І не баяліся, што яны нараджаюцца адно за адным. Сынку нашаму Сашу другі годзік, ён пачаў хадзіць ужо. І які прастор яму ў такой вялікай кватэры! І дзяўчаткам — трохгадовай Тані, дзесяцігадовай Ліне, школьніцы, ёсць дзе рыхтаваць урокі. Усё радуе. А як не радавацца? Вясной прываліла найвялікшае шчасце — Сталінская прэмія за раман "Глыбокая плынь". Лаўрэат! Таму і кватэру далі. Выходжу ў тузы! Даганяю класікаў. У такой кватэры чаму не пісаць! Кватэра — наша майстэрня. Працую апантана, праўда, уначы, калі дзеці спяць. Успамінаю, што калегі мае менш зласловілі наконт прэміі, чым наконт таго, што я паставіў тэлефон. Чамусьці гэта асабліва заела Анатоля Вялюгіна. На добрым падпіцці ён дакараў мяне гэтым тэлефонам: "Хлопцы! У яго ўжо тэлефон! Зазнаецца, гад". А тэлефон гэты маўчаў. Бо хто мог мне званіць, калі тэлефоны былі толькі ў Коласа, Броўкі, Лынькова, Крапівы, здаецца, нават Максім Танк не меў яшчэ гэтага атрыбута цывілізацыі.

А ў той дзень мы набылі яшчэ адну рэч — радыёпрыёмнік. Уклаўшы дзяцей спаць, мы з Машай з незвычайнай асалодай лавілі розныя станцыі, слухалі музыку, якую да таго ніколі не чулі. У Машы яшчэ адна радасць: што я цяпер рэдка загульваў у багемнай кампаніі. Крыўдна было чуць: "Зазнаўся!". Але я не звяртаў увагі. І жонка высока цаніла гэта, яна як на новы віток кахання ўзнялася і мяне ўзняла. Жыццёвыя даброты надаюць высакароднасць пачуццям тым, хто з'яднаў свае жыцці, нарадзіў дзяцей. Нягоды прыніжаюць іх, гэтыя пачуцці, утвараюць трэшчыны ва ўзаемаадносінах.

Вось у такім шчаслівым спакоі сядзелі мы ў той позні вечар.

І раптам рэзка зазваніў тэлефон. Можа, у нейкі трэці раз з таго дня, як яго паставілі. Спалохаў нас. Хто можа званіць а палове дванаццатай ночы? Я не адразу падняў трубку. Стаяў над апаратам з працягнутай рукой і як баяўся, што трубка гарачая. А ў патыліцу стоена дыхала Маша. Тэлефон не змаўкаў, настойваў: адказвай, нікчэмны баязлівец!

– Я слухаю, — голасу ўласнага не пазнаў — ахрыплы.

– Вас турбуе памочнік таварыша Зімяніна. Міхаіл Васільевіч выклікае вас да сябе.

– Калі?

– Зараз. Пропуск вам заказаны, — і ніякіх тлумачэнняў: кароткія гудкі.

Мая ашаломленасць вельмі спалохала Машу. Твар яе спалатнеў:

– Што, Ваня? Што адбылося?

– Мяне выклікае Зімянін.

– Цяпер?

– Зараз жа..

– Што здарылася? Што ты натварыў?

– Нічога я не зрабіў. Раман друкую… — апублікавана была першая частка "Блізкага часу" (канчатковая назва "У добры час"), дарэчы, найбольш лакіровачны мой раман, хоць першая крытыка Войніча: ачарненне калгаснай вёскі, а пасля XX з'езда наадварот — бесканфліктнасць.

– Ты думаеш, за раман? Можа, па п'янцы набалбатаў чаго не трэба.

– Чаго не трэба — я ніколі не казаў.

– О божа! Не бывае радасці…

Маша не проста пабляднела — пазелянела.

– Ну, чаго ты спалохалася? Не пасадзяць жа мяне там. З ЦК не садзяць…

– Хто ведае, адкуль садзяць.

– Ну, што ты вярзеш! — я пачаў злавацць. — У ЦК працуюць, пакуль Сталін працуе — да трох ночы.

Я храбрыўся. Але, прызнаюся цяпер, спалохаўся не менш за Машу. Верыў філасофіі: лёс зменлівы, ён ураўнаважвае радасці і беды, дабро і зло.

Пачаў апранацца, а рукі дрыжэлі. І Маша бачыла гэта, гузікі ў паліто зашпіліла, перахрысціла, і мяне, атэіста, не абурыла набожнасць яе, пасля жартаваў з яе хрышчэння.

На вуліцы было не ніжэй 25°, мяла пазёмка. Я то ішоў уподбег, то скавана спыняўся. Вецер займаў дух, не было чым дыхаць. І немаведама чаму рос мой страх — да душэўнай жудасці.

Зімяніна я ведаў, ён колькі разоў выступаў перад намі, слухачамі партшколы. Востра выступаў, смела. Часам страшнавата рабілася, а часам весела смяяліся, слухаючы яго.

У бюро пропускаў страху дадаў міліцыянер: высунуўся з акенца і аглядзеў мяне з ног да галавы, здалося мне, падазрона, як хацеў запомніць. Каго? Таго, хто ідзе. Куды? Адкуль ён ведае, чаму я іду ў вялікі дом у такі час? Але ў страха вочы вялікія. Пра добрае не думалася — толькі пра благое.

Ліфт не працаваў, і я ўзнімаўся на пяты паверх, як стары, з задышкай, адпачываючы на кожнай пляцоўцы. Не адну хвіліну стаяў перад дзвярамі з шыльдачкай "Зімянін М. В.". Пагнала памачыцца. На насочках хадзіў па калідоры — шукаў туалет. Памачыўся — і як адлягло на душы, з'явілася ўпэўненасць і бадай смеласць. Ва ўсялякім разе, у другі раз перад дзвярамі не стаяў. Адчыніў іх рашуча. І… узрадаваўся: не хлопцы, якіх мела на ўвазе Маша, сядзелі ў прыёмнай, — а Мікола Садковіч. Член Саюза пісьменнікаў, ён меў раман пра Скарыну, напісаны ў сааўтарстве з Львовым. Гэтага пісьменніка я так ніколі і не ўбачыў за ўсю сваю доўгую кіраўнічую службу ў СП. Анатоль Вялюгін, які ўсё пра ўсіх ведаў, казаў нам, што Львоў — псеўданім маскоўскага гісторыка і літаратара, які і напісаў гэты раман. Але пазней Садковіч адзін напісаў аповесці, раман "Мадам любовь". Чалавек ён быў дэмакратычны. Мяне добра ведаў.

Мы ў адзін год атрымалі Сталінскія прэміі, ён за дакументальны фільм "Дэмакратычная Германія". У той час ён займаў пасаду міністра кінематаграфіі БССР. Шышка!

Падняўся насустрач. Ветліва прывітаўся. Гэта адагнала страх: не я адзін тут у такі позні час!

– А ў цябе якая просьба, Шамякін?

– Мяне Міхаіл Васільевіч выклікаў.

– Гэта горш, брат, калі начальства выклікае, — вярнуў страх, хоць ужо не такі брыдкі. — Я напрасіўся сам. У мяне во цэлая папка просьбаў. Служба, мой дарагі калега! Не лезь у міністры! Найпаганейшая пасада. Лепш у малатабойцы. Між іншым, сярод просьбаў адна і цябе датычыцца. Планую зняць фільм па "Глыбокай плыні". Давай разам напішам сцэнарый. Сам рэжысёрам буду, — зноў адагнаў страх. У той час лічылася вышэйшым прызнаннем, калі па тваім творы здымалі фільм. Па Шолахаву яшчэ не здымалі. Толькі па "Маладой гвардыі" знялі.

Але калі я паспрабаваў выказаць канцэпцыю сюжэта (пасля напісання рамана я даведаўся пра партызанскі рух значна больш, з самім Кожарам, камандзірам Гомельскага злучэння, блізка пазнаёміўся, з Казловым пагутарыў), то з поўным расчараваннем адкрыў, што рамана майго Мікалай Фёдаравіч не чытаў. Але гэта не засмуціла, а бадай развесяліла. Недарэмна Антон Бялевіч назваў міністра Хлестаковым; Антон любіў даваць мянушкі на падпіцці; Янку Маўра чамусьці назваў "Каларадскім жуком", на што дзед пакрыўдзіўся, і нам з Броўкам прыйшлося мець з Антонам строгую гутарку, вымусіць яго пайсці прасіць у Івана Міхайлавіча прабачэння.

Для мяне было прыемна мець такога красамоўнага субяседніка, яго фантазіі аддалялі мае трывожныя думкі. Як я адчуваў бы сябе адзін у пустой прыёмнай? Ні сакратаркі, ні памочніка. Другая палавіна ночы. Людзі даўно спяць. Толькі Сталін на варце, з ім — яго паплечнікі, якія кіруюць рэспублікамі, абласцямі, раёнамі. Не, у раёнах так позна не сядзяць, быў я ў раёнах, вячэраў з сакратарамі райкомаў. Не бачыў такіх апантаных, каб працавалі да трох ночы.

З кабінета, адчыніўшы дзверы "шафы", задам вылузнуўся, што арэх, таўсцячок з тварам, які спалохаў мяне, — чырвоным, як вараны рак. Атрымаў на поўную катушку! Прахрыпеў:

– Хто тут Шамякін? Заходзьце.

Садковіч падхапіўся.

— Пайду з табой. Карацей будзе.

Я ўзрадаваўся: што б ні адбылося — будзе сведка.

Зімянін выйшаў з-за стала і павітаўся за руку. Са мной першым. Як заспакоіла мяне — такая яго прыветлівасць. Значыцца, не для разносу выклікаў.

– А ты, Садковіч, чаму не спіш?

– Справы, Міхаіл Васільевіч. Справы. Вы ж не спіце.

– Параўнаў! У мяне рэспубліка, а ў цябе адна студыя.

– А кінафікацыя?

– Гэтым займаюцца ўсе. Аднаўленне кінатэатраў — клопат агульны. Дарэчы, з цябе і яшчэ кой з каго мы на бюро здымем стружку — за кінатэатры.

– Стружка не паможа. Грошы дайце!

– Зараз адчыню сейф і выкладу табе пачкі. Колькі мільёнаў табе трэба?

– Чым больш — тым лепш. Колькі каштуе здымка аднаго фільма — ведаеце?

– Я ведаю. А ты лічыць дзяржаўныя грошы не ўмееш.

– Умею.

Мне спадабалася смеласць Садковіча. Выходзіць, з гэтым партыйным генералам можна гаварыць і так — як з роўным.

Селі.

– Ну, ты, Садковіч, свае праблемы абдумай — каб карацей выкладваў. — І да мяне: — Ну, як жывеш, раманіст наш?

– Добра, Міхаіл Васільевіч! Кватэру атрымаў…

– Гэта я ведаю… Раман скончыў?

– Не яшчэ, трэцюю частку пішу…

– Канчай хутчэй. Першую я прачытаў, — узяў з краю стала са стоса газет і часопісаў нумар "Полымя", у якім пачатак майго рамана. — І хачу сказаць: мне спадабалася. Малайчына! Асабліва пра выбары хораша напісана. Як дзед — як яго? — спяшаецца, каб прагаласаваць першым. (Між іншым: факт гэты я не прыдумаў — назіраў, калі ў Пракопаўцы быў старшынёй выбарчай камісіі, як дзед з Будзішча першым з'явіўся на выбары задоўга да шасці раніцы.)

Зімянін працягваў, звяртаючыся чамусьці да Садковіча:

– А то ў нас як пішуць выбары? Такую клюкву даюць, што чытаеш і мімаволі думаеш: сур'ёзна гэта аўтар ці здзекваецца з нашай дэмакратыі?.. У час мінулагодніх выбараў за адну такую клюкву я прапанаваў Галоўліту вымову запісаць. І не толькі Ваганава, але і некаторыя члены бюро не маглі зразумець — за што.

(Пазней, у час "адлігі", я прачытаў гэты эпізод рамана і не мог уцяміць, за што Зімянін хваліў мяне. Натуральная "клюква", як ён называў, толькі хіба з цукрам, не кіслая.)

Мінут пятнаццаць Зімянін хваліў мой раман. Але — дзіўна! — я чамусьці не адчуваў асаблівай радасці: мне здавалася, не за тое, за што трэба, хваліць ён мяне. І не ў той час: няхай бы з трыбуны хваліў. Заспакоенага, мяне апанавалі апатыя і абыякавасць.

Зімянін як адчуў гэты мой стан, з уласцівай яму імклівасцю спыніў свой крытычны агляд.

– Вось што я хацеў табе сказаць. А цяпер бяжы дасыпай.

– Я начамі пішу.

– І жонка не выгнала цябе?

– Маючы траіх дзяцей…

– У цябе трое дзяцей? — Зімянін засмяяўся. — Майстра! Бяры прыклад, Садковіч.

– Мне ўжо позна. Я — стары.

– Ведаю я, які ты стары. Актрыс падбіраеш маладых.

– Па сцэнарыі, Міхаіл Васільевіч, па сцэнарыі.

– Закажы Шамякіну сцэнарый.

– Ужо заказаў. "Глыбокую плынь" экранізуем, — "свіснуў" міністр. (У кіно я прабіўся гадоў праз дваццаць.)

Толькі выскачыўшы з будынка на марозны вецер, я адчуў сапраўдную радасць. Засмяяўся ад яе і ад недарэчнага страху, які перажыў, і, мабыць, пачырванеў за яго, за страх: якая ганебная баязлівасць!

Праспект быў пусты — ніводнай душы! І я не ішоў — бег, падскокваючы, як малады казёл. Хутчэй да Машы! Хутчэй да Машы! Уяўляў, як яна, нябога, хвалюецца!

Кароценька пазваніў — не разбудзіць дзяцей. Маша адчыніла з Сашкам на руках. Глыбока выдыхнула:

– О, божа! — і апусцілася на табурэтку, што стаяла ў калідоры.

– Чаму ты ўселася тут? Малога прастудзіш.

– Ты шчокі не адмарозіў? — шаптала Маша.

– А што, белыя?

– Не, чырвоныя.

– Бягом жа бег да цябе.

– А я Сашку чуць накарміла. У мяне прапала малако. Куды яно дзявалася? Я ж добра ела і многа піла.

– Перахвалявалася ты, слаўная мая.

– Ты не ўяўляеш — як…

– І дарэмна.

Маша аднесла сына ў спальню ў каляску. Прыйшла ў мой кабінет, дзе я распранаў свой парадны касцюм, і толькі там спытала:

– Ну, што там?

– Ён пахваліў "Блізкі час".

– І ўсяго?

– З цябе мала?

– О божа! І з-за гэтага трэба выклікаць у гадзіну ночы?

– Так працуюць.

– Працаўнічкі!.. Працуюць, а калгаснікі…

– Маша! Начальства не чапай.

– Паказаць хацеў… Каб ты ведаў, хто цябе пахваліў. Які чытач…

Во гэта праўда: да глыбокай старасці пра тую зімовую ноч не забываюся. Далася ў знакі. Цяпер хтось пасмяецца з таго майго і Машынага страху — прыраўнялі да вайны! Але ж… "быў час, была эпоха…".

## Памятны юбілей

50 гадоў Петрусю Броўку. Арганізаваў яго старшыня Саюза пісьменнікаў выдатна. Як помню, 70 гадоў Якубу Коласу адзначалася больш сціпла. Ва ўсялякім разе, прыём з нагоды Коласавага юбілею я помню толькі ў яго доме, на якім я ўпершыню напіўся — піў каньяк "Двін".

Пятро Усцінавіч, добры паэт, меў надзвычайныя арганізатарскія здольнасці. Здаралася, падкінем з Ткачовым ідэю, пryме ён яе, і праз дзень-два прыходзіць з радасным паведамленнем:

– А я, хлопцы, ужо вырашыў наша пытанне. Гуляў раніцою каля ЦК, падпільнаваў Мазурава, і ўсё зроблена. Званіце памочніку.

Аднак пра юбілей… Вечар праходзіў у Оперным тэатры ў прысутнасці ўсяго кіраўніцтва рэспублікі — Патолічаў, Казлоў, Мазураў. Папак і кветак — гара.

Прыёмы ў рэстаранах не ўвайшлі яшчэ ў моду, усе абавязаны былі праяўляць сціпласць. Паэты, кампазітары, мастакі невялікімі кампаніямі былі пастаяннымі наведвальнікамі **злачных** месц. Партыйна-савецкія работнікі абыходзілі рэстараны за вярсту. Сціпласць? Ханжаства?

Броўка таксама не палез у "Беларусь" — член ЦК! Каб ніякіх размоў не было — народ не залячыў яшчэ ваенныя раны, жыў бедна. Юбіляр наладзіў прыём у Доме творчасці "Каралішчавічы". Гэта быў невялікі двухпавярховы драўляны дом, збудаваны палоннымі немцамі па заказе першага пасляваеннага старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета

*(Працяг на стар. 14 — 15)*



ЧАСАПІС

## “Птушыны ранак”




**Такой назвай укладальнік Артур Вольскі аб'яднаў вершы і казкі Станіслава Шушкевіча, выпушчаныя выдавецтвам “Юнацтва” ў “Школьнай бібліятэцы”. Пераважная большасць гэтых твораў даўно сталі хрэстаматыйнымі. Прыемна і тое, што дзеці ахвотна завучваюць іх на памяць. Дасціпныя, мілагучныя, надзіва свежыя паэтавы радкі лёгка запамінаюцца. І ў садку, і ў школе часта можна пачуць,як малыя, сабраўшыся разам, паўтараюць... Ды, канечне ж, творы дзеда Стаха. Бо яны напісаны так, быццам прамоўлены тымі ж хлопчыкамі і дзяўчынкамі. С. Шушкевіч, як нямногія дзіцячыя пісьменнікі, умеў пераўвасабляцца ў сваіх герояў, глядзеў на акаляючы свет іхнімі вачыма. Таму і нараджаліся радкі, якія нельга не запомніць. Пацвярджэнне таму і верш “Танцавалі ў сшытку кляксы”:**

*Танцавалі ў сшытку кляксы*
*Ад чарніла і ад ваксы,*
*Танцавалі, прысядалі,*
*Двойку ў госці запрашалі.*
*Кажа Двойка: — Не пайду,*
*Лепш сястрыцу прывяду!..*
*І, дугой сагнуўшы спінку,*
*Прывяла сястру — Адзінку.*

**А хіба не са школьнага жыцця ўзяты верш “Адзінка і двойка”?! —**

*Пачалі стагнаць і войкаць*
*Пад акном Адзінка з Двойкай:*
*Вучні выгналі са школы,*
*Выгляд маюць невясёлы.*
*— Ну, куды прайсці, пралезці,*
*Хто цяпер нас будзе песціць?*
*— Ша, — прамовіла Адзінка, —*
*Пастаім мы тут з гадзінку,*
*Можа, хто ўцячэ з урокаў,*
*Ранец кіне недалёка,*
*Забяромся ў ранец разам,*
*Там размесцімся адразу.*

**Плённа працаваў Станіслаў Пятровіч і ў галіне казкі. Памятаў, што гэта адзін з самых даўніх жанраў, які бярэ выток з фальклору. Быў перакананы: добрая і мудрая, дасціпная і займальная казка здатна пашырыць кругагляд дзяцей, навучыць іх любіць свой край, расці сапраўднымі грамадзянамі. С. Шушкевіч як апрацоўваў лепшыя ўзоры вуснай паэтычнай творчасці, так і ствараў уласныя казкі. Найчасцей гэтыя два прынцыпы падачы матэрыялу ён спалучаў, і творы ад гэтага толькі выйгравалі. Смела асучасніваў казкі. І ў гэтым дасягаў вялікага поспеху, аб чым, у прыватнасці, сведчыць казка “Парушальнік руху Воўк”:**

*Днём на “Волзе” утраіх*
*Ваўчаняты мчаліся,*
*Бо начальніка ДАІ*
*Зайца не баяліся.*

**Ды і чаго баяцца было, калі за рулём знаходзіўся іх тата Воўк:**

*Не спыніўся. Наўздагон*
*Робіцца пагоня.*
*Воўк узяў такі разгон,*
*Аж рысоры звоняць.*

**Дзеянне ў творы развіваецца дынамічна, напружана. Паставы ДАІ не лыкам шыты:**

*Зайчык выхапіў наган*
*І страляе ў шыну.*

**Усё скончылася тым, чым і павінна было скончыцца:**

*Адабралі у ваўка*
*На машыну права:*
*Не спыніўся, уцякаў —*
*Вось з ім і расправа.*

**У меру дыдактычныя і іншыя творы, а сярод іх ёсць і празаічныя. А ў цэлым кніга “Птушыны ранак” — добры падарунак дзятве.**

**Алег ГУЛІЦКІ**

# Евангелле ад Якуба і... Чэслава

***Здавалася, яшчэ так нядаўна, да 200-гадовага юбілею Адама Міцкевіча, Беларускі фонд культуры выдаў адмысловы том: паэму «Пан Тадэвуш» на беларускай, польскай і рускай мовах (Мінск, БФК, 1998.).***

***Працягваючы унікальную традыцыю шматмоўнага выдання пад адной вокладкай, з ініцыятывы БФК і перадусім яго старшыні Уладзіміра Гілепа да 120-годдзя Якуба Коласа выходзіць чарговае самавітае выданне, таксама трохмоўнае: паэма “Новая зямля”.***

***Гэты 900-старонкавы фаліянт найперш каштоўны тым, што ён упершыню пазнаёміць чытача з польскім перакладам шэдэўра беларускай паэзіі ХХ стагоддзя. Пераклад здзейснены ў 1991—2001 гг. варшаўскім журналістам і літаратарам Чэславам Сэнюхам.***

Зямля для народа, як глеба для дрэва. А літаратура кожнай краіны, яе культура — плён гістарычнага развіцця нацыі. Пры ўмове, калі гэты плён назапашваецца, а не марнуецца з веку ў век. Бо толькі на сваёй (роднай!) раллі пачуваешся, як на камлі.

Нарадзіўшы напрыканцы XVIII стагоддзя славянскага генія Адама Міцкевіча (1798—1855), прынёманскія выбітыя палеткі зачалі і спарадзілі на трэці лістападаўскі адвячорак 1882 года, пасля дня Усіх памерлых (*Дзядоў*), яшчэ аднаго Міцкевіча: Кастуся, сына Міхала Казіміравіча і Ганны з Лосікаў (Лёсікаў). Паводле сямейнай легенды, тым вечарам

Тут варта ў некалькіх штрыхах аднавіць грамадска-палітычную і літаратурную атмасферу 1923 года, калі выйшаў у свет поўны тэкст беларускага паэтычнага эпасу. Паводле даследаванняў Уладзіміра Конана, афіцыйная прапаганда ацаніла твор прахалодна. Нядзіва. Яшчэ напярэдадні, увосень 1922 года, тагачасны сакратар ЦК КПБ В. Кнорын у шэрагу “звяздоўскіх” артыкулаў называў адраджэнскі пафас Янкі Купалы і яго літаратурнай школы «дробнабуржуазным народніцтвам», а яго носьбітаў — «банкротамі», якія не здолелі «перабудавацца», бо для іх застаўся чужым

троп у Галактыцы зямлян. Гэты Крывавы Шлях доўга яшчэ будзе пазнавацца па рэках крыві і мільёнах нявінных ахвяр: “*Колькі талентаў звялося, / / Колькі іх і дзе ляжыць / / Невядомых, непрызнаных, / / Не аплаканых нікім, / / Толькі ў полі адспяваных / / Ветру посвістам пустым!*” (Якуб Колас. “*Сымон-музыка*”). Пазбаўленых паэтавага запавету, як апошняга ўсёдаравальнага “Амінь”:

***У тваіх палях пазычыць сілу,***
***У тваёй зямлі сысці ў магілу...***

Так у XIX—XX стагоддзях край волатаў ператвараўся ў зямлю кенатафаў. Мільёны сыноў і дачок не вярталіся на Бацькаўшчыну на апошні спачын...

Гэтак сеялася горкае, чарнабыльнае, палыновае зелле звыроднасці. Словам, як вырвалася яшчэ на пачатку XVII стагоддзя ў “прамове” смаленскага кашталяна Яна Мялешкі, за сваімі ды чужымі “*баламутнямі нашынец выжывіцца не можа*”. І цяпер мы асуджаны на няўдзячную ролю сведак, калі ў 1990-ыя гады з'явілася магчымасць атрымаць ва ўласнасць надзел, хоць невялікі, ды свой, але ў розных кутках Беларусі

Язэп ЯНУШКЕВІЧ



ляснік Міхал Міцкевіч толькі зацемна вярнуўся з абходу, прынесшы з радзівілаўскіх пушчаў парку позніх баравікоў. Яно нядзіва ўпаляваць такое ў дзень святога Губерта, патрона заўзятага племя паляўнічых! Продкі ж паэта — спрадвечныя сяляне. Да слова, каталікі па-мячу і па-кудзелі: пераведзеныя ў праваслаўе ў 1866 годзе (у «мураўёўскай» Беларусі тагачасныя «*Воссоединения*» сялян з «*истинной верой*» адбываліся цэлымі вакаліцамі; яно мо і лепш «добраахвотна» перайсці, чым усёй вёскай па этапе ў сіберную старану пайсці — разважыла-спанатрыла Мікалаеўшчынская грамада).

Коласам жытнёвым, міфічнай птушкай-фенікс гадаваўся пакрыёма ў радзівілаўскай Мікалаеўшчыне сын лесніка (у абсалютнай «адзіноце», як згадае праз гады сам паэт пра маленства ў леснічоўках). Ды што ў лесе родзіцца, то хаце кожнай згодзіцца. У заграбленай беларускай хаціне, выстуджанай жудаснымі секвестрамі і канфіскацыямі, рэкрутчынай і праклятым сібірам, не хапала ўласных Міцкевічаў-песняроў, слынных у свеце, здольных “*кінуць жальбу нашу ў неба — Няхай неба ўскалыхнецца!*” (Якуб Колас. “*Месяц*”). І прынёманскія плодныя палеткі паўтарылі непаўторнае.

Зрэшты, гэты край заўсёды быў годны называцца Зямлёй Волатаў.

Кожная глеба, дай толькі ёй догляд, «сама сабою родзіць спачатку зяляніну, потым колас, потым поўнае зерне ў коласе». Так сказана ў адным з біблейных новазапаветаў. Святое пісанне складаецца (у хрысціян) з 50 кніг. Вялікі пясняр ***Кастусь Міцкевіч***, які ў гісторыі беларускай літаратуры застаўся пад біблейным і аднačасова зямным псеўданімам — ***Якуб Колас***, магчыма,працягнуў бы працу над сваім шэдэўрам — паэмай “*Новая зямля*”, распачатай у царскім астрозе (1911), калі б не трагедыі канца 1920-х—пачатку 1950-х. Але тады, калі на самым пачатку 1923 года паспеў скончыць сваё паэтычнае палатно пра Зямлю на сімвалічнай XXX-й песні «*Смерць Міхала*», ён не памыліўся: колішняя асабістая сямейная трагедыя прарочыла агульнанацыянальную. Такі непамысны, на першы погляд, нелагічны фінал ліра-эпічнай паэмы толькі недасведчаным у беларускай гісторыі падасца недарэчным.

Як ідэолага старазаветнага перажытку, уласніцтва, супраць якога і быў зроблены нядаўні кастрычніцкі пераварот, Якуба Коласа ўжо праз тры гады паспрабуюць распяць, пабіваючы камянямі абвінавачання па так званай справе Юркі Лістапада на Случчыне. А праз дзесяцігоддзе — чарговае выпрабаванне: “6 лютага 1938 года ў доме Якуба Коласа шукалі зброю, пісьменніка прымусілі ўзняць рукі і стаць тварам да сцяны”. Як перад расстрэлам.

Так і жылося. З паднятымі ўгору рукамі, з чаканнем літасці ад гвалтаўнікоў. Аднак, згадваючы мінулае стагоддзе без гучных паўстанняў на нашых землях, мы можам паўтарыць, схіліўшы галаву перад продкамі: *Gloria invictis!* За створанае ды пакінутае папярэднікамі нам у спадчыну — *Слава неперамоžаным*!

Беларускую Калевалу, ледзьве толькі народжаную, тутэйшыя “камуністыя” сустрэлі ў штыкі, намагаючыся загнаць на музейныя паліцы, адводзячы ёй месца побач з адвечнымі лапцямі, саматканымі посцілкамі ды нікому не патрэбнымі (у іх уяўленні) народнымі песнямі.

пралетарскі пафас класавай барацьбы супраць «буржуазіі і дробнабуржуазнага» сялянства. І вось гэтая «дробнабуржуазная стыхія сялянства» запаланіла цалкам апошні твор Якуба Коласа. Ва ўяўленні бальшавікоў беларускія літаратары — мерцвякі, што гародзяць шлях да светлага камуністычнага заўтра (адзін з кнорынскіх артыкулаў меў загаловак «*Мертвый хватает живого*»). Беларускі публіцыст Лявон Жыцень (пад гэтым псеўданімам хаваўся заходнебеларускі бальшавік, сакратар Гродзенскага падпольнага камітэта КПЗБ Леапольд Родзевіч) заклікаў да пільнасці, патрабуючы заняць пазіцыю «наглядчыка і абаронцы пралетарскай ідэалогіі». І, на прыкладзе “Новай зямлі” Якуба Коласа, задэманстраваў класавую пільнасць. На ягоную думку твор гэты, адсталы і архіўны «як з ідэёвага боку, так і па форме». Адсюль выснова: належыць назаўжды «развітацца з устарэўшай «*Новай зямлёй*», прачытаўшы якую, «ставім яе з даволі несамавітым настроем на паліцы для кніг побач з Шэйнам ці Федароўскім — вось так, на ўсякі выпадак». “Крытык-напастовец хацеў спісаць у архіў і народную творчасць і Коласавую народную паэму” (Уладзімір Конан).

У тыя нялюдскія дзесяцігоддзі коласаўская “Новая зямля” ўспрымалася, дастасуючы словы іншага беларускага класіка пра ўласную творчасць, як “*пераможны гімн сярод крыжоў, магіл*” (Янка Купала). Сярод родных крыжоў і пустых магіл. Успрымалася, нібы біблейная кніга першымі хрысціянамі з выразным “поглядам на Сусвет як на жывы твор Бога” (Уладзімір Конан). Аднак любая рэлігія прагрэсу, камуністычная ў тым ліку, неміласэрная да мінулага. У ХХ стагоддзі па нараджэнні Хрыстовым цэнтурыёны «чырвонай імперыі» імкнуліся вытруціць нанет не толькі дух — веру продкаў, але паняволіць іх нашчадкаў фізічна, зганяючы падданых у калгасныя камуны. У «неабсяжнай і самай шчаслівай» краіне СССР абясцэньвалася боскае прызначэнне чалавечага жыцця. А што казаць пра гаспадаранне на ўласным загоне?! Бо ўжо ні палеткі над распалавіненай Рыжскай дамовай (1921) нашай хатняй рэчкай Нёман (“*Чуў ты смутак горкай долі / / Свайго сына-мужыка, / / Чуў не раз у пустым полі / / Плач і слёзы бедака*”), ні, па вялікім рахунку, сама беларуская культура, як і дзесяткі іншых, непатрэбны былі ў постраманаўскай імперыі: $^1/_6$ частка планеты Зямля, трэцяй па ліку ўдалечыні ад Сонца, круцілася вакол уласнай восі маркса-леніна-сталіна, пракладаючы жахлівы камуністычны

прагучала: “*А нашто мне гэтая зямля?!*”. З вуснаў не аднаго і не двух нашчадкаў спрадвечных сялян. Якія забыліся, што зямля — камель незалежнасці. Якія быццам ніколі не чыталі ўзвышана-афарыстычных радкоў:

***Зямля не зменіць і не здрадзіць,***
***Зямля паможа і дарадзіць,***
***Зямля дасць волі, дасць і сілы,***
***Зямля паслужыць да магілы,***
***Зямля дзяцей тваіх не кіне,***
***Зямля — аснова ўсёй айчыне.***

Кола замкнулася. Крывавая чарнабыльная зямля стала непатрэбнай ды адыходзіць.

У такіх грамадска-палітычных і культурных варунках варшаўскі журналіст і літаратар Чэслаў Сэнюх пераклаў на польскую мову энцыклапедыю сялянскага жыцця, дзе ўвасоблены, геніяльна апеты ўвесь жыццёвы шлях беларуса. Ад калыскі да магілы.

Распачатым увосень 1991 года перакладам Чэслаў Сэнюх дыхаў штодзённа. Колькасць перакладзенага ад ліку 10 963 радкоў беларускага арыгінала сталася для перакладчыка сэнсавым вымярэннем кожнага пражытага дня. Як лірычны герой “Новай зямлі” летуценіў “баравіковымі” снамі, так Чэслаў пачасту знаходзіў патрэбную рыфму, хіба, і ў сне. Каб ранкам адно занатаваць высненыя, адчаканеныя радкі, у якія адліваліся родныя змалку вобразы і якія не заўсёды ўдавалася выкрышталізаваць у дзённым тлуме “панны Варшавы”. Аднолькава, як шматлікія песні велічнай ліра-эпічнай паэмы высніў Якуб Колас у менскім турэмным “пішчалаўскім замку”, калі ад 29-гадовага вязня адрываўся ягоны дух і на захадзе сонца, якое закочвалася ў закратаваным праёме дзесь за Ракаўскім трактам, пакідаў сутоннем каменныя лёхі (хто з айчынных літаратараў толькі не “гасцяваў” ў тых скляпеністых “салонах”, не ад Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча пачынаючы і не Вацлавам Ластоўскім заканчваючы!) ды крыляў у прынёманскія далі. Лепш праз краты, каб не сутыкацца лішнім разам у калідоры з турэмным наглядчыкам Пікулікам, які вераскліва падклікаў паэта: “*Кін-сцін-цін*!”. Адкуль было ведаць вязню Міцкевічу, што мройлівыя сны пра родны кут расцягнуцца на чвэрць стагоддзя: 25 гадоў (1915—1940) “я бываў у Мікалаеўшчыне толькі ў мыслях ды ў сне”, пачынаючы ад бежанскага “змушанага пераезду ў Маскоўшчыну”.

***Мой родны кут, як ты мне мілы!.***
***Забыць цябе не маю сілы!***
***Не раз, утомлены дарогай,***


ЦАНА АСОБНАГА НУМАРУ 5

ПРОЛЕТАРЫ УСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ОРГАН ФЭДЭРАЦЫІ А... НАНЬНЯЎ САВЕЦКІХ ... МЕНЬНІКАЎ І ГАЛ... СТАЦТВА БССР

№ 1 1932 Менск 26 лютага

## Прывітаньне ЦК КП(б)Б газэце „Літаратура і Мастацтва"

ЦК КП(б)Б шле бальшавіцкае прывітаньне газэце „Літаратура і Маст... сувязі з выхадам першага нумару.

ЦК упэўнены, што газэта будзе сапраўдным баявым органам у зма... генэральную лінію партыі, за ленінскую нацыянальную палітыку, за ... пролетарскай літаратуры БССР, у змаганьні за бальшавіцкую партыйнас... тарскага мастацтва, за стварэньне літаратуры і мастацтва—пролетарскаг... і нацыянальнага формай.

Сакратар ЦК КП(б)Б ШАРАНГОВІЧ.

## Змагацца за магнітабуды літаратуры і мастацтва

# Тут намоленыя сцэны

**70 гадоў — гэта Шлях. Няпросты і пакручасты. Шлях у поўным сэнсе гэтага аб'ёмнага слова, якое ўбірае ў сябе і звонкія перамогі, і горкія расчараванні, і светлыя нязгасныя надзеі на лепшую планіду. Сёння, у светлы і ўрачысты для нас дзень, нам, лімаўцам, прыемна ўсведамляць, што на гэтым Шляху штотыднёвік заўсёды нёс высока і годна сцяг Беларушчыны. І гэта абсалютна заканамерна і натуральна, бо на самым пачатку нашага**


*С. Картэс, А. Фляркоўскі, В. Роўда, 1987 г.*


*І. Шамякін у гасцях у вайскоўцаў, 1992 г.*


*Пісьменніцкім сходам кіруе І. Навуменка*


*Група пісьменнікаў у чаканні сустрэчы з чытачамі*


*Віншаванне М. Лужаніна (справа) у Коласавым доме*


*П. Клімук і Е. Лось, 1976 г.*


*М. Аўрамчык, У. Караткевіч і В. Быкаў, 1973 г.*

**Шляху стаялі нязломныя волаты беларускага духу Янка Купала, Якуб Колас, Максім Гарэцкі...**

**Душой беларускай літаратуры і мастацтва называў нашу газету Пётр Міронавіч Машэраў.**

**Так, у "ЛіМе" даўно намоленыя сцены, намоленыя не адным пакаленнем творцаў, якія самаахвярна служылі і служаць высокаму і чыстаму. Часам, згадваючы суровага Дантэ і ягоную "Боскую камедыю", мы ўспамінаем, што паводле яго існуе дзевяць кругоў пекла. Другі круг называецца Лімб. Вядома, жартуючы, расшыфроўваем яго як "ЛіМ" Беларусі.**

**Так, наша праца няпростая, а падчас і сапраўды пякельная, але "ЛіМ" — гэта гучыць горда і годна. Мы спадзяёмся, што ў служэнні Бацькаўшчыне нам дапаможа Бог, а ён, калі верыць класіку, жыве ў нас, на Беларусі.**

**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**



*С. Законнікаў і Р. Барадулін — у гасцях у землякоў — віцябчан*



*П. Панчанка і А. Куляшоў, 1975 г.*



*Н. Гілевіч з балгарскімі сябрамі Р. Эўцімавай і С. Паптоневым*



*У. Караткевіч, В. Сёмуха і Б. Бур'ян, 1972 г.*



*Я. Брыль і В. Хомчанка, 1987 г.*



*Н. Пашкевіч і К. Кірэенка, 1987 г.*



*У адведкі да Якуба Коласа*



*Сённяшнія лімаўцы*

*Фота з лімаўскага архіва (У. КРУКА, А. КАЛЯДЫ, М. ПРУПАСА)*

## "Хворы" на рок-н-рол

**Менавіта такі дыягназ быў пастаўлены ўсім удзельнікам "Рок каранацыі — 2001", што адбылася 24 лютага ў канцэртнай зале "Мінск". Гісторыя каранацыі пачынаецца з 1994 года. У адрозненне ад папярэдніх сёлетняя акцыя адбылася пры катастрафічна малой колькасці гледачоў, што тлумачыцца неапраўдана завышанымі цэнамі на квіткі, а ні ў якім разе не спадам цікаўнасці да сучаснай рок-музыкі. Беларускі рок жывы і такі ж папулярны, як і пяць, і дзесяць гадоў таму. Доказам гэтаму служыць вялікая колькасць маладых гуртоў, заяўленых на ўдзел у канцэрце.**

**Распачалі фэст мінулагодняя каралі — гурт "NRM" з новым патэнцыяльным хітом "На беларускіх дарогах". Імя лідэра групы Лявона Вольскага фігуравала і ў шэрагу іншых праектаў, такіх, як "Святы вечар", "Я нарадзіўся тут" і зусім свежым "Крамбабуль".**

**У намінацыі "Лепшы кліп года" перамог гурт "Палац" з песняю "На турэцкіх палях". З дэбютантаў вызначыліся гурт "Сплінэцік", а таксама "Адкрыццё года" — каманда "Імпэт", салістка якога перамагла і ў намінацыі "Рок князёўна".**

**Сааўтары "Цацачнай крамы" Леанід Драньestablished-Майсюк і Зміцер Вайцюшкевіч былі каранаваны тройчы ў намінацыі "Тэксты года", "Музыка года" і "Традыцыі сучаснасці".**

**На сцэне "засвяціліся" не толькі сталічныя музыкі, але і магілёўскі гурт "Афезія", "Рублёвая зона" і дуэт "Аляксандра і Канстанцін" з Барысава.**

**Легендарных монстраў беларускага року — гурт "Крама" зала сустракала стоячы, а бурныя апладысменты не сціхалі да канца іх выступлення. Альбом "крамнікаў" "Хавайся ў бульбу" быў аднадушна прызнаны лепшым у мінулым годзе.**

**Песня перспектыўнай каманды "Без білета" (новая назва "Мора") "Мая краіна Беларусь", у якой усяго тры простыя, але такія дарагія для кожнага словы, стала лепшай на "Рок каранацыі".**

**Карону рок журналіста года прымераў на сцэне прызнаны летапісец айчыннага року — Вітаўт Мартыненка.**

**Не абышлося і без кур'ёзаў, так званай лыжкі дзёгцю ў бочцы з мёдам. Саліст гурта "Лепрыконсы", выйшаўшы на сцэну ў "разагрэтым" стане, кідаў у залу нецэнзурныя выразы, юроднічаў, за што і быў пакараны — не прыняты публікай.**

**У рэшце рэшт, рок-каралём 2001 года стаў фундатар праектаў "Святы вечар" і "Я нарадзіўся тут" — Алесь Суша. Дарэчы, як паведаміў сам Алесь, ужо зараз вядзецца запіс новага музычнага праекта "Скрыпка дрыгвы" на вершы Уладзіміра Караткевіча. Аднайменная песня ўдзельніка праекта гурта "Нейра Дзюбель" і стала эфектнай кропкай "Рок каранацыі — 2001".**

Ян АКУЛІН

## Скрыпач? Дырыжор? Спявак!

**Кары Персан, уладальнік багатага драматычнага барытона, атрымаў незвычайную для вакаліста музычную адукацыю. Скончыў Акадэмію музыкі ў Швецыі па класах дырыжыравання, скрыпкі, спеваў, затым — Акадэмію опернага мастацтва. Стажыраваўся ў вядомых шведскіх, італьянскіх, аўстрыйскіх, швейцарскіх вакалістаў, педагогаў. Шведскі артыст оперы, ён жыве ў Швейцарыі. І менавіта падчас тамтэйшага Міжнароднага фестывалю "Classic Openair", куды ўжо не адзін год запар прыязджае і Нацыянальны акадэмічны тэатр оперы Беларусі, пазнаёміўся з нашымі артыстамі. У 2000 годзе К. Персан удзельнічаў у гастрольных спектаклях беларускай трупы, выконваў партыю Лепарэла ў оперы В. Моцарта "Дон Жуан".**

**У яго рэпертуары наогул больш за 60 роляў; лепшыя работы прадстаўлены на лазерных дысках, якіх у артыста шэсць. І калі працягваць "творчы рахунак" К. Персана, трэба назваць два нядаўнія выступленні шведска-швейцарскага госця на мінскай музычнай сцэне. 19 і 23 лютага яго прыгожы барытон гучаў у спектаклях "Рыгалета" (цэнтральная роля) ды "Тоска" (роля Скарпіа). Ансамбль саліста-гастралёра, артыстаў, хору і аркестра Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы Беларусі ў абодва вечары выступаў пад кіраўніцтвам нашага маладога маэстра Андрэя Галанава.**

Я. КАРЛІМА

ЗГАДКІ

***У першай палове сямідзесятых гадоў мінулага 20-га стагоддзя мне давялося ўзначальваць шматлікі калектыў Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Працуючы на адказнай дырэктарскай пасадзе, я штодня знаходзіўся ў кругабегу бурлівага канцэртнага жыцця, быў удзельнікам і сведкам розных філарманічных падзей, закулісных прыгод і кур'ёзных здарэнняў, якія нават немагчыма сабе ўявіць. Некаторыя з іх настолькі глыбока ўрэзаліся ў памяць, што зрабілася асновай сённяшніх асабістых журналісцкіх згадак.***

# А яшчэ быў выпадак, або Закулісныя кур'ёзы

### Без віны вінаватыя

Бадай, адна з самых непрыемных прыгод, якая здарылася ў першую гадавіну маёй працы ў Белдзяржфілармоніі, магла дрэнна адбіцца на далейшай службовай кар'еры. Але раскажу ўсё па парадку.

У снежні 1972 года шырока адзначалася 50-годдзе ўтварэння СССР. З нагоды такога юбілею ўрачыстасці ў Мінску ладзіліся ў памяшканні Палаца спорту, куды можна было запрасіць каля пяці тысяч чалавек з усіх абласцей рэспублікі. Іншай глядзельнай залы з такой значнай умяшчальнасцю беларуская сталіца ў той час яшчэ не мела. І хаця ў Палацы спорту былі няўручныя пластмасавыя крэслы, адсутнічала аркестравая яма, а галоўнае — была зусім не прыстасаваная для канцэртаў сцэнічная пляцоўка, партыйнае кіраўніцтва рэспублікі спыніла выбар усё ж на гэтым памяшканні, з-за вялікай колькасці месцаў.

І вось — урачыстая імпрэза. Пасля афіцыйнай часткі распачаўся святочны канцэрт з удзелам майстроў мастацтваў саюзных рэспублік. Усё як быццам ішло гладка, паводле загадзя складзенай праграмы, і нішто, здавалася, не абяцала нечаканасцей. Выступленні вядомых мастацкіх калектываў змяняліся канцэртнымі нумарамі знакамітых салістаў Беларусі, а таксама гасцей, запрошаных з усяго Савецкага Саюза.

І раптам — на табе: калі салістка Вялікага тэатра СССР Тамара Мілашкіна выконвала на авансцэне адну з класічных оперных арый, з-за закрытай заслоны нечакана пачуліся ледзьве ўлоўныя "галасы" электрагітар. Як потым высветлілася, гэта малады вакальна-інструментальны ансамбль "Песняры" рыхтаваўся да свайго выступлення: падключаў музычныя інструменты і мікрафоны да гукаўзмацняльнай апаратуры.

Разззлаваная Т. Мілашкіна, ледзь закончыўшы спяваць, з пачуццём душэўнай крыўды пабегла за кулісы. Следам за ёй імкліва накіраваўся з урадавай ложы тагачасны міністр культуры Ю. Міхневіч, каб неяк супакоіць пакрыўджаную спявачку і папрасіць прабачэння за тэхнічныя накладкі ў канцэрце.

А літаральна праз некалькі нумароў здарылася новая надзвычайная прыгода. Падчас выступлення эстонскага барытона Пальма самаадвольна спрацаваў механізм заслоны, якая пачала апускацца на галаву спевака. І ён вымушаны быў з сярэдзіны пляцоўкі хуценька перамясціцца на самы край авансцэны.

**— Ну, Юрый Парыгоравіч, усё гэта дабром не скончыцца, — сказаў я галоўнаму рэжысёру канцэрта Ужанцаву. — Давядзецца нам трымаць адказ перад начальствам...**

І праўда: праз якія-небудзь пару дзён міністра культуры, начальніка ўпраўлення па справах мастацтваў, рэжысёра і мяне выклікалі на нечарговае пасяджэнне Бюро ЦК партыі, якое вёў другі сакратар ЦК КПБ А. Аксёнаў. Ад кожнага з нас затрабавалі падрабязных тлумачэнняў: чаму ў канцэрце, прысвечаным вялікаму ўсенароднаму святу, былі дапушчаны недаравальныя ляпсусы і хібы. Ніякія нашы апраўдальныя доказы, спасылкі на прымітыўнае тэхнічнае абсталяванне і недасканаласць сцэны Палаца спорту да ведама не прымаліся. І я хутка зразумеў, што адным абмеркаваннем на Бюро ЦК справа не скончыцца. Апынуўшыся ў становішчы без віны вінаватых, а дакладней "казлоў адпушчэння", мы ўсе атрымалі строгія партыйныя спагнанні. Вось які быў час...

### Як Уладзімір Атлантаў трапіў у міліцыю

Ночы ў чэрвені самыя кароткія, і світанак надыходзіць надзвычай хутка. Калі аднойчы ціхай чэрвеньскай раніцай мяне пабудзіў тэлефонны званок, было толькі чатыры гадзіны. Але на двары ўжо зусім развіднелася — як удзень. Званіў міністр культуры Юрый Міхайлавіч Міхневіч. З нейкай трывогай і хваляваннем у голасе прамовіў:

**— Хутчэй збірайся, Георгій Мікалаевіч. Я ўжо выклікаў службовую машыну. З хвіліны на хвіліну заеду за табой.**



**— А што здарылася, чаму такі спех? — збянтэжана спытаў я ў міністра.**

**— Паедзем у аддзяленне міліцыі вызваляць Уладзіміра Атлантава. Яго невядома за што арыштавалі ўначы.**

Ад нечаканай весткі я разгублена прамаўчаў, а пра сябе падумаў: "Во дык гісторыя! Яшчэ чаго добрага сарвуцца гастрольныя канцэрты масквічоў. Тады ад сораму згарэць можна".

Якраз тымі днямі салісты Вялікага тэатра СССР, народныя артысты РСФСР Уладзімір Атлантаў і Тамара Мілашкіна разам з камерна-інструментальным ансамблем прыехалі ў Мінск на гастролі напярэдадні святкавання 30-годдзя вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў. Знакамітыя спевакі выступалі са сваёй канцэртнай праграмай пры гучных аншлагах у клубе імя Дзяржынскага, а жылі непадалёк, у гасцініцы "Мінск".

Звычайна пасля кожнага канцэрта яны збіраліся ў гасцінічным нумары Т. Мілашкінай, каб разам павячэраць (рэстаран быў ужо зачынены), а заадно абмеркаваць надзённыя творчыя справы. Пры гэтым, напэўна, не абыходзілася і без моцных напояў. Прынамсі, частая ў калідор даносіліся гучныя размовы і неўтаймоўныя спрэчкі між артыстамі, што не вельмі падабалася адміністратарам гасцініцы. І тыя вырашылі ўрэшце прыструніць маскоўскіх гастралёраў, спыніць іх сяброўскія "вячоркі" з дапамогай праваахоўных органаў. Спешна былі выкліканы ўчастковыя міліцыянеры, якія, не разбіраючыся ў стасунках прыезджых артыстаў, проста выцягнулі У. Атлантава з гасцінічнага нумара і прымусова даставілі яго ў дзяжурны пакой РАУС Цэнтральнага раёна Мінска.

Калі я і Ю. Міхневіч з'явіліся ў аддзяленні міліцыі, абураны спявак усё яшчэ злосна лаяў дзяжурнага з капітанскімі пагонамі, пагражаючы пасля вяртання ў Маскву паскардзіцца на мінскую міліцыю саюзнаму міністру ўнутраных спраў Шчолакаву.

Як маглі, мы трохі супакоілі Атлантава і запэўнілі, што пра гэты інцыдэнт будзе паведамлена кіраўніцтву рэспублікі. Узяўшы зняважанага артыста пад сваю абарону, павезлі яго ў гасцініцу адпачываць. Потым мы наладзілі сустрэчу з усім калектывам таленавітых маскоўскіх салістаў і музыкантаў, каб яны не трымалі крыўду на ні ў чым не вінаватых арганізатараў іх гастроляў. Знаныя спевакі не толькі паспяхова закончылі свае мінскія канцэрты, але і ўзялі ўдзел у святочным вечары, прысвечаным 30-й гадавіне вызвалення Беларусі ад фашысцкіх акупантаў. А вось ганебны ўчынак работнікаў міліцыі не застаўся без увагі: некаторыя службовыя асобы атрымалі вымовы, а сёй-той вымушаны быў нават развітацца са сваёй пасадай.

### Тэхніка бяспекі падвяла

Неяк у Мінск завітаў на адзін гастрольны канцэрт выдатны французскі піяніст Самсон Франсуа. Ён і раней неаднаразова выступаў з Акадэмічным сімфанічным аркестрам Беларусі, выконваючы сольныя партыі ў буйных фартэпіянных творах кампазітараў-класікаў.

Гэтым разам сусветна вядомы музыкант уключыў у сваю гастрольную праграму выкананне з нашым аркестрам аднаго з фартэпіянных канцэртаў Моцарта. Як заўсёды, з раніцы пачалася аркестравая рэпетыцыя, якая пад кіраўніцтвам дырыжора Ю. Яфімава працягвалася да другой гадзіны дня. Саліст у суправаджэнні мінскіх аркестрантаў рупліва дамагаўся зладжанасці і эмацыянальнай выразнасці ігры, па некалькі разоў, безупынна паўтараў асобныя мясціны фартэпіяннага твора.

Пасля працяглай, стомнай рэпетыцыі Самсон Франсуа разам з перакладчыцай накіраваўся ў гасцініцу, з намерам паабедаць і крыху адпачыць перад вячэрнім канцэртам. Але ўжо седзячы ў машыне, ён раптам успомніў пра разладжаны раяль і таму вырашыў вярнуцца ў філармонію, каб асабіста прасачыць за настройкай інструмента.

Што адбывалася далей, мне расказаў рэжысёр канцэртнай залы Міхаіл Жухавіцкі, у якога літаральна на вачах разыгралася незвычайная трагікамічная гісторыя з удзелам французскага піяніста:

**— Я быў якраз у зале, калі на сцэне да настройшчыка раяля падышоў Самсон Франсуа, каб зрабіць нейкія заўвагі наконт гучання музычнага інструмента. Потым бачу — ён пачаў павольна задам адступаць у бок залы. І раптам знік, як скрозь зямлю праваліўся. Я адразу зразумеў, што замежны госць зняча ўку трапіў у адзін з двух адкрытых люкаў аркестравай ямы, якая ў філармоніі амаль ніколі не выкарыстоўвалася.**

Страшэнна перапалоханыя М. Жухавіцкі і перакладчыца, выцягнуўшы спужанага піяніста з "ямы", адразу павезлі яго на абследаванне ў паліклініку 4-га Галоўнага ўпраўлення. Там дактары правялі неадкладны медыцынскі агляд замежнага пацыента і, на шчасце, ніякіх цялесных пакалечанняў, траўм не знайшлі. Ён адчуваў толькі моцнае нервовае ўзрушэнне.

**— Можа, усё ж трэба адмяніць канцэрт? — спыталі мы ў артыста.**

**— Ні ў якім разе, мінская публіка чакае майго выступлення! — катэгарычна заявіў ён.**

І вечарам Самсон Франсуа граў разам з аркестрам абвешчаны моцартаўскі канцэрт, цёпла сустрэты слухачамі.Ніхто з іх, вядома, не ведаў пра тое, што здарылася з салістам за некалькі гадзін да выступлення. Праводзячы госця на цягнік да Вільні, мастацкі кіраўнік філармоніі Васіль Сербін, рэжысёр залы Жухавіцкі ды я дзякавалі Богу і бязмежна радаваліся, што Самсон Франсуа не страціў мастацкую форму з-за кур'ёзнага выпадку і мог прадоўжыць свае гастролі ў суседняй Літве.

## Ганна Герман спявала ў цырку

Да распаду Савецкага Саюза гастролі замежных артыстаў, як правіла, праводзіліся толькі праз Дзяржканцэрт СССР, які быў своеасаблівым імпрэсарыю на ўсёй былой савецкай прасторы. Беларуская філармонія не мела магчымасці сама запрашаць тых ці іншых выканаўцаў з-за мяжы, найперш з-за адсутнасці валютных сродкаў.

І калі аднойчы летам Дзяржканцэрт СССР прапанаваў арганізаваць у Мінску тры выступленні вядомай польскай спявачкі Ганны Герман, кіраўніцтва філармоніі з задавальненнем пагадзілася. Бо гэтая "зорка" польскай эстрады мела велізарную папулярнасць як у сябе на радзіме, так і ў многіх краінах Еўропы.

Пачалі шукаць глядзельную залу, дзе можна было б размясціць пабольш слухачоў. Палац спорту рамантаваўся. І тут хтосьці з нашых адміністратараў успомніў пра памяшканне Мінскага цырка, разлічанае амаль на дзве тысячы месцаў, якое ў летні час заўсёды пуставала. Яго і выбралі.

Аднак з нашага боку была дапушчана сур'ёзная памылка. Перш чым пусціць у продаж білеты, мы забыліся ўзгадніць з замежнай салісткай пытанне пра канцэртную пляцоўку. Калі Ганна Герман даведалася, што яе выступленні ў Мінску мусяць адбыцца ў цырку, яна праз свайго адміністратара катэгарычна заявіла: "На арэне цырка ніколі не спявала і не збіраюся спяваць!"

Філармонія трапіла ў цікавае становішча: канцэрты пад пагрозай зрыву, хаця білеты на іх даўно раскуплены. Трэба было неадкладна штосьці рабіць. Праз Генеральнае консульства ПНР у Мінску мы звярнуліся па дапамогу ў Пасольства Польшчы ў Маскве, каб яго супрацоўнікі нейкім чынам паўплывалі на спявачку, пераканалі яе ў неабходнасці гастрольнай паездкі пасля Ленінграда ў сталіцу Беларусі. Пасля доўгіх, цяжкіх перамоў Ганна Герман, нарэшце, змяніўшы гнеў на літасць, дала згоду на свае выступленні ў Мінскім цырку.

Помню, як гэтая таленавітая польская артыстка, высокая, статная, з прыгожым тварам, упэўнена выйшла на цыркавую арэну і сваім цудоўным голасам пачала выконваць колішнія савецкія песні, якія яна горача любіла, бо ведала іх моцнае эмацыянальнае ўздзеянне на людзей. Спявачка адразу зачаравала слухацкую аўдыторыю, пакарыўшы сэрцы шматлікіх меламанаў яркай выразнасцю і глыбінёй раскрыцця песенных твораў. Публіка была ў захапленні ад яе спеваў і літаральна кожны нумар праграмы сустракала бурнымі апладысментамі.

Расчуленая такім гарачым прыёмам, Ганна Герман, пакідаючы Мінск пасля гастроляў, ужо не шкадавала, што ёй давялося выступаць у цырку, а не ў звычайнай канцэртнай зале.

**Георгій ЗАГАРОДНІ,**
**супрацоўнік рэдакцыі "ЛіМа" ў 1957—65 гг.**

МЕРКАВАННЕ

# Кіно і літаратура: парваны ланцуг

На працягу апошніх дзесяці год мне давялося мець самыя непасрэдныя адносіны да творчага кінапрацэсу: альбо ўзначальваў кінастудыю "Беларусьфільм", альбо ўвогуле курыраваў кінагаліну.

На пачатку 90-х разгубленасць у сувязі з падзелам "вялікай дзяржавы" ахапіла як кінематаграфістаў, так і пісьменнікаў. Хранічная нястача сродкаў садзейнічала таму, што сцэнарнае, літаратурнае кіраўніцтва ў беларускім кіно пакінулі вядомыя пісьменнікі. Паступова іх выціснулі і з мастацкіх саветаў. Хваля "новых прадпрымальнікаў" не цікавілася праблемамі беларускай літаратуры і яе ўвасабленнем на экране. І ўсё ж насуперак усяму нашы кінематаграфісты час ад часу звярталіся да нацыянальнай літаратуры.

Першымі зазірнулі ў нацыянальную скарбонку больш сталыя рэжысёры. У ліку іх — Барыс Сцяпанаў, які ўвайшоў у гісторыю кіно з фільмам "Альпійская балада" паводле Васіля Быкава. У 1992-м годзе ён пачаў працаваць над фільмам "...Аз воздам", дзе звярнуўся да асобы беларускага філосафа Казіміра Лышчынскага, аўтара трактата "Аб неіснаванні бога". Рэжысёр Б.Сцяпанаў і аўтар сцэнарыя У.Бутрамееў паспрабавалі падысці да матэрыялу з філасофскага пункту гледжання. Але, мабыць, не хапіла ўласнай упэўненасці ва ўмацаванні атэізму, ці нейкую ролю адыграла тое, што ў адной са сваіх папярэдніх карцін Сцяпанаў наадварот прапагандаваў павагу да рэлігіі — а быў гэта не зусім кепскі фільм "Я, Францыск Скарына" — так ці інакш, рэжысёрскі сцэнарый, скарэкціраваны Сцяпанавым, атрымаўся рыхлым і непераканаўчым. Здаецца, вопытнага тэатральнага драматурга У.Бутрамеева трохі "пераціснуў" кінематаграфіст. Барыс Сцяпанаў прыступіў да здымак, але хутка захварэў і памёр. Працу над фільмам працягнулі рэжысёры Маргарыта Касымава і Барыс Шадурскі. Абодва не рызыкнулі пайсці ў напрамку атэістычных ідэй Сцяпанава, сцэнарый і трактоўка будучага фільма кардынальна змяніліся. Цяпер фільм апавядаў аб трагічным лёсе Казіміра Лышчынскага, яго ных пакутах і кары. Але і ў такім пераўвасабленні двухсерыйны фільм не стаў значнай з'явай беларускага мастацтва, цікавым гістарычным кінаматэрыялам. Фільм скіраваўся ў напрамку звычайнага біяграфічнага летапісу. "...Аз воздам" трапіў у стандартнае рэчышча пераліковых падзей і пакінуў гледача з пытальнікам: навошта?

Больш пашанцавала другой гістарычнай асобе — Яну Баршчэўскаму, фальклары сту, выдаўцу, пісьменніку XVIII стагоддзя. Буйнейшы майстар беларускага кінамастацтва Віктар Тураў звярнуўся не да біяграфіі Я. Баршчэўскага і нават не спрабаваў экранізаваць нейкі канкрэтны твор. Рэжысёр вырашыў увасобіць на экране сам дух творчасці славутага фалькларыста, высвеціць аблічча тагачаснага беларускага шляхецтва. (В.Тураў ажывіў на экране шматлікіх персанажаў зборніка казак і мясцовых паданняў "Шляхціц Завальня, альбо Беларусь у фантастычных апавяданнях".) Дадаў каларыту сам шляхціц Завальня (чытай — Ян Баршчэўскі) у цудоўным выкананні народнага артыста Беларусі Уладзіміра Гасцюхіна. Карціна дазваляла зазірнуць у сапраўдныя вытокі беларускай культуры, захапляла насычанасцю дзеяння і адметнасцю кінаэкраннага насельніцтва. Фільм быў створаны ў 1994 годзе, калі В.Тураў пакутаваў ад анкалагічнага захворвання і добра ведаў пра набліжэнне смерці. Але не толькі не прыпыніў здымак, нават адмовіўся ад чарговага абследавання. Такія, як ён, людзі працавалі побач з намі, а мы і сёння не можам уцяміць, што стварэнне "Шляхціца" — сапраўдны подзвіг. В.Тураў імкнуўся ў сваім апошнім фільме данесці да людзей дабрыню, шчырасць, любоў да чалавека, надзею на свой народ. В.Тураў — хлопчык, які прайшоў фашысцкі канцлагер, перажыў сталінскі ціск, на хвалі хрушчоўскай "адлігі" вярнуўся ў Мінск, каб расказаць з экрана тое, што да яго ніхто не гаварыў. Так адбылося і з апошняй стужкай.

Яшчэ адно далучэнне да гісторыі — экранізацыя «Споведзі» Ларысы Геніюш, фільм 1996 года «Птушкі без гнёздаў». Па сённяшні дзень не згасаюць спрэчкі вакол гэтай беларускай паэтэсы. Стаўшая ў пасляваенныя гады палітычным вязнем, яна не рэабілітавана і сёння. Адны абвінавачваюць Геніюш у здрадніцтве, калі яе грамадская дзейнасць і жыццё ў Празе мірна суседнічалі з фашысцкай дыктатурай. Другія лічаць паэтку ахвярай сталінскага рэжыму, бо, арыштаваная ў 1948 годзе, яна вярнулася ў родную Зэльву толькі ў 1956-ым. Рэжысёр Віталь Дудзін, добра вядомы гледачам па стужках «Іван», «Пад небам блакітным, імкнуўся абысці ў сваім кінарамане абедзве гэтыя трактоўкі — як абвінавальную, так і апраўдальную, ён паспрабаваў прадставіць Л.Геніюш як сведку гісторыі. У фільме паказаны як падзеі ў акупаванай немцамі Празе, так і арышт паэтэсы савецкімі чэкістамі, але канкрэтных адзнак рэжысёр не робіць, пакідае ўсё на развагу гледачоў. Рэжысёр здолеў захаваць у кінастужцы характэрны для Геніюш абвостраны драматызм перажывання. Шэраг эпізодаў, як, напрыклад, стыхійны бунт супраць камуністаў, альбо вызваленне Прагі савецкімі войскамі вырашаны з такім нервам, што шчэміць сэрца. Але мазаічная пабудова фільма не дазволіла ему ўзняцца да самай высокай планкі. У выніку не вельмі яснай аўтарскай канцэпцыі фільм не падтрымалі ні ўлады, ні апазіцыя, канешне, не ўсё зразумеў і глядач. Са здабыткаў фільма — доказ таго, што ў Беларусі ёсць вельмі цікавыя акцёры: галоўную ролю рэжысёр рызыкнуў даверыць актрысе з Маладзечна і дэбютантцы ў кіно Таццяне Кавалеўскай і не памыліўся.

За апошні час ніхто з кінематаграфістаў не прапанаваў экранізаваць творы Янкі Купалы альбо Якуба Коласа. Нават надыходзячы юбілей славутых песняроў не зварухнуў творчыя намеры майстроў беларускага кіно. На жаль, такія вельмі кінематаграфічныя творы, як «Сымон-музыка» — лірычны, рамантычны і выключна нацыянальны, а таксама фальклорная, з філасофскім адмысленнем жыцця паэма «Новая зямля» засталіся па-за межамі ўвагі кінематаграфістаў. Можа, святкаванні, што адбудуцца сёлета, падштурхнуць майстроў экрана, зацікавяць іх і яны ўбачаць нацыянальны скарб?

Так ці інакш, але ўсё ж кінематаграфісты звярталіся да беларускай літаратуры. Пашанцавала Івану Шамякіну: мэтр кіно Ігар Дабралюбаў экранізаваў два ягоныя апавяданні пад агульнай назвай фільма «Эпілог» (1994). Але бессэнсоўнасць жыцця, бязвер'е і адсутнасць хаця б нейкай надзеі зрабілі пастаноўку такой цьмянай, што лепш было б замест «Эпілога» назваць «Некралогам». Нават бліскучы дуэт майстроў беларускай сцэны Эдуарда Гарачага і Валянціна Белахвосціка не выратаваў становішча. У выніку кінапракатчыкі не толькі Расіі, але і Беларусі адмовіліся ад набыцця фільма. Рэжысёр пісаў лісты ва ўсялякія «верхнія» інстанцыі з патрабаваннем шырокага кінапаказу карціны. Камерцыйны аддзел кінастудыі неаднойчы прадстаўляў «Эпілог» на самых розных кінарынках, але прадаць стужку так і не здолеў.

Сумны лёс закрануў таксама падвоеную экранізацыю Васіля Быкава "На Чорных лядах"(1995) — фільм, створаны Валерыем Панамаровым. Сцэнарый быў насычаны глыбокім псіхалагізмам, дакладнымі і вельмі рознымі характарыстыкамі персанажаў. Моцны ансамбль беларускіх акцёраў, здавалася, забяспечваў фільму поспех. Рэжысёр з энтузіязмам распачаў здымкі. Адзняў каля трэці і... "перагарэў". Так можа здарыцца не толькі ў кіно, у кожным відзе мастацтва. На здымачнай пляцоўцы згасла напружанасць, паніклі акцёры, хварэў рэжысёр, здымкі час ад часу прыпыняліся, страцілася тая атмасфера, якая завецца натхненнем... На службовы прагляд на кінастудыі "Беларусьфільм" быў запрошаны Саюз пісьменнікаў. Стужку абмяркоўвалі доўга і горача. Пазней нават Быкаў вымушаны быў сказаць, што кінастужка, пэўна, не будзе карыстацца шырокім глядацкім попытам. Фільм вытрымаў два прэм'ерныя кінапаказы ў Доме літаратара...

Больш пашанцавала Віктару Казько. Справа ў тым, што ён на працягу немалога часу ўзначальваў сцэнарную калегію кінастудыі. Яму як пісьменніку і былому галоўнаму рэдактару студыі было прасцей прыстасавацца (у нармальным сэнсе слова, без абразы!) да сучаснай мовы кіно — дынамічнай, паспешлівай, насычанай непарыўным дзеяннем. Ды і папярэдні вопыт, набыты з такімі грунтоўнымі фільмамі, як "Сад", "Паводка", дапамагаў яму. І нават хваробы, якія адна за другой зваліліся на Казько, не перашкодзілі яму стварыць два цудоўныя сцэнарыі — "Маленькі баец" і "Зорка Венера" (рэжысёр Маргарыта Касымава). Абодва адрасаваны маладому пакаленню, чый лёс добра ведае выхаванец дзіцячага дома В.Казько. З самага пачатку сцэнарыі, а потым фільмы не прэтэндавалі на нейкае аўтарскае "бачанне свету", не ставілі мэту здзівіць гледача сцэнарна-рэжысёрскімі штукарствамі. Простыя і ясныя стужкі прысвечаны вечным тэмам: "Маленькі баец" — замацаванню дабрыні ў час, калі падлетак застаўся без бацькоў, "Зорка Венера" — шчырай дзіцячай істоце, якая спрабуе выцягнуць з бяды сястру. Кінакарціны знайшлі свайго гледача. Можа, гэта не пункт адліку для творчай ацэнкі фільма, але вось цікавыя лічбы. Прамыя затраты (без кінастудыйных працэнтаў) на вытворчасць фільма "Зорка Венера" склалі 90,5 млн.бел.руб. За адзін год карціна была прададзена на кінарынках і тэлекірмашах у 42 рэгіёны Расіі і 6 абласцей Беларусі на суму 9 млн.бел.руб. і 281 тыс. расійскіх рублёў. Такім чынам, стан набліжаецца да пакрыцця ўласнага кошту фільма. Гэта найлепшае сведчанне таго, што стужка не апынулася на паліцы фільмасховішча.

У апошні час у жанры, які лёгка перакладаецца на мову кіно, працуе беларускі пісьменнік Георгій Марчук. Па ягоным творы Дзмітрый Зайцаў зрабіў пранікнёную стужку "Кветкі правінцыі". Фільм хвалюе глыбінёй пазнання звычайнай і няблізкай правінцыі, чысцінёй вобразаў, светлынёй маральнага духу герояў. І доказ поспеху фільма — Дзяржаўная прэмія Рэспублікі Беларусь аўтару сцэнарыя Г.Марчуку, рэжысёру Д.Зайцаву, аператару У.Спарышкову, выканаўцу галоўнай ролі В.Цітову. Г.Марчук піша кінематаграфічна (пэўна, важкую ролю адыграла тое, што на працягу многіх гадоў ён працаваў на "Беларусьфільме"), і ў ягоным партфелі шэраг цікавых прапаноў — "Вочы і сон", "Без анёлаў" і асабліва — дзве кнігі "Крык на хутары", якімі ў свой час цікавіліся М.Пташук, В.Нікіфараў і В.Рыбараў. Але ўсе творы нібы чакаюць свайго часу. Якога? Калі не стане Г.Марчука, альбо не стане беларускага кіно?

Калі трапляе ў рукі кніга Мікалая Чаргінца, заўсёды здзіўляешся яе напружанаму сюжэту, дэтэктыўнай пабудове падзей, ёмістасці характараў. Не самая ўдалая экранізацыя — "Бег ад смерці" (1996), ажыццёўленая Віктарам Дзяругіным, выявіла яшчэ адну рысу, якой нібы мэтанакіравана пазбягае беларускае кіно: у нас амаль няма фільмаў патрыятычнага, выхаваўчага накірунку. У значнай частцы літаратуры асоба беларуса прадстаўлена як вельмі памяркоўнага чалавека, у чымсьці страчанага, часцей за ўсё бруднага, хворага, панурага, крывога альбо кульгавага. У М.Чаргінца беларус-герой твора — крэпкі, моцны, шчыры, адкрыты чалавек, здольны думаць сам і прымаць адказныя рашэнні. Герой, з якога можна браць прыклад і якім можна ганарыцца. Менавіта такі вобраз дадзены ў рамане "Вам заданне", што на працягу некалькіх гадоў знаходзіцца ў планах "Беларусьфільма".

Плённымі з'явіліся пошукі пісьменніка Сяргея Тарасава і рэжысёра Віктара Шавялевіча, якія стварылі на БТ фільм "Пастка для зубра". Галоўнае ў карціне — даследаванне нашай гісторыі, паказ сутнасці людзей, якія прагнуць улады.

Цікава, з выкарыстаннем нацыянальнага фальклору і бытавога гумару напісана жартоўная паэма Сяргея Давідовіча "Свежына з салютам". Аднайменная кінастужка створана рэжысёрам-дэбютантам Іванам Паўлавым, дастаткова багатая па кінематаграфічным пераўтварэнні і да таго ж — створана на беларускай мове (што таксама не частая з'ява ў нашым кіно), менавіта гэта дазволіла захаваць і народны каларыт, і беларускі гумар, які, безумоўна, страчвае пры перакладзе.

Спрабуюць свае сілы ў кіно маладыя беларускія аўтары. Па аповесці Валерыя Сарокі рэжысёр Барыс Шадурскі стварыў фільм "Апёк", прасякнуты вострым непакоем за лёс падлеткаў, якія апынуліся ў "зоне". Аляксандр Качан з'явіўся аўтарам ажно двух сцэнарыяў за адзін год: "Павадыр", пастаўлены Аляксандрам Яфрэмавым, і "Эскіз на маніторы", над якім працавалі ў сілу абставін шэраг кінаспецыялістаў, у тым ліку рэжысёр Руслан Зголіч. Але адзначыць можна толькі меладраму "Павадыр" А.Яфрэмава, якога гледачы добра памятаюць па лёгкіх, прыгожых фільмах — "Родная справа", "Давай пажэнімся", "Наш чалавек у Сан-Рэма" і інш. Сваёй даступнай лірычнасцю "Павадыр" прывабіў гледачоў на фестывалі "Залаты віцязь", да таго ж выпусціў у свет шэраг цудоўных беларускіх акцёраў (дарэчы, у фільме ўсе ролі выконваюць беларускія артысты), найбольш запамінальныя з якіх Валерыя Арланава і Пётр Юрчанкоў-малодшы. І ўсё ж такі поспех "Павадыра" — больш за кошт рэжысёра, чым аўтара. Падобнае, зразумела, не адбудзецца з "Эскізам на маніторы".

Ужо здымаецца шматсерыйны тэлефільм "Дзіця, сястра мая" па сцэнарыі беларускага драматурга Юліі Ляшко, дарэчы, за які яна атрымала прыз на Усерасійскім конкурсе. На жаль, пастаноўка фільма ажыццяўляецца ў значнай ступені за грошы санкт-пецярбуржцаў, таму і рэжысёр Аляксандр Капіца — з Піцера.

Галоўная ўвага засяроджана на стварэнні маштабнага праекта "Анастасія Слуцкая". Сцэнарый піша вядомы беларускі драматург Анатоль Дзялендзік, якому непатрэбны дадатковыя рэкамендацыі. Па папярэдніх чытаннях — сцэнарый вельмі напружаны і дае падставу зрабіць захапляючы нацыянальны фільм. Але зараз абмяркоўваць яго — несвоечасова.

У свой час мне як рэжысёру і мастацкага, і дакументальнага кіно пашанцавала працаваць з выдатнымі пісьменнікамі. Сярод іх Уладзімір Караткевіч, Максім Танк, Андрэй Макаёнак, Максім Лужанін, Уладзімір Мехаў, Барыс Сачанка, Алесь Пісьмянкоў, Сяргей Новік-Пяюн, Рыгор Барадулін, Валянцін Лукша, Алесь Петрашкевіч, Кастусь Губарэвіч. Таму з усёй адказнасцю магу сцвярджаць, што ў Беларусі існуе вельмі моцны падмурак для стварэння высакаякаснай драматургічнай кінаасновы.

У тым, што ў апошні час па сутнасці разарваўся ланцуг "беларуская літаратура — нацыянальнае кіно", вінаватыя, пэўна, як кінематаграфісты, так і пісьменнікі. На жаль, шэраг цудоўных беларускіх аўтараў застаецца па-за ўвагай беларускага кіно.Асабліва шкада ў тых выпадках, калі гэта тыя пісьменнікі, якія зрабілі нашаму кінематографу імя і ўзнялі на ўзровень сусветнага мастацтва. Напрыклад, Аляксей Дудараў, аўтар "Белых Рос" і "Восеньскіх сноў", стварае п'есы, на якія цяжка дастаць білет, але сённяшняе кіно яго не заўважае ўвогуле. Па-за межамі кіношнай цікавасці застаюцца Алесь Петрашкевіч, аўтар сцэнарыя вострапубліцыстычнага фільма "Нядзельная ноч", пастаўленага В.Туравым, альбо Вольга Іпатава, аўтар сцэнарыя элегантнага і тонкага фільма А.Карпава "Гамункулус" ("Вузялок святабора"). У тым жа радзе аўтары, якія доўга і плённа працавалі ў дакументальным жанры: Уладзімір Саламаха, Рыгор Барадулін, Уладзімір Мароз. 15 бліскучых з пункту гледжання кінаапавяданняў выдаў Іван Пташнікаў. Яскравая гісторыя радзімы — у грунтоўных творах Генрыха Далідовіча, такіх, як "Кліч роднага звону". Не хочацца кагосьці пакрыўдзіць, прапусціўшы імя, але гэты спіс можа быць бясконцы. Бо добрай беларускай літаратуры хапае. Не хапае кіно.

**Юрый ЦВЯТКОЎ,**
**кінарэжысёр, заслужаны дзеяч мастацтваў, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь**

## Вызначаны лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Кандрата Крапівы за 2001 год

**Як паведамляў "ЛіМ", у мінулым годзе рэдакцыя часопіса "Вожык" заснавала штогадовую Літаратурную прэмію імя Кандрата Крапівы. Яна прысуджаецца за лепшыя сатырычныя і гумарыстычныя творы, надрукаваныя на старонках часопіса, і адметны ўклад у развіццё беларускай сатыры і гумару.**

**Згодна рашэнню рэдакцыйнай калегіі часопіса першым лаўрэатам Літаратурнай прэміі імя Кандрата Крапівы стаў вядомы паэт, даўні аўтар "Вожыка" Павел Саковіч.**

**Лаўрэату будуць уручаны дыплом і грашовая прэмія.**

**Міхась ПАЗНЯКОЎ**

## Адчуць і зразумець прыроду



**Вядомы мастак-пейзажыст В. К. Бялыніцкі-Біруля пісаў: "У аснове таленту пейзажыста заўсёды ляжыць шчырая любоў да прыроды — зразумець, адчуць прыроду, здолець падслухаць яе гаворку не ўсім дадзена. Усё сваё жыццё я шмат працаваў, вучыўся, назіраў і прыслухоўваўся да маўчання і гаворкі прыроды. І цяпер, у сваёй адзіноце, я заўсёды назіраю яе вечна зменлівае жыццё. Прырода абуджае ў чалавеку розныя па сваім характары пачуцці і перажыванні. Розныя станы ў жыцці яе па-рознаму адгукаюцца ў душы".**

**Выставы пейзажа ў Магілёве (музеі В. К. Бялыніцкага-Бірулі з 28 лютага 2002 г.) і Нацыянальным мастацкім музеі РБ (Мінск, з 4 сакавіка 2002 г.) прысвечаны 130-годдзю з дня нараджэння Вітольда Каэтанавіча Бялыніцкага-Бірулі.**

**Палотны І. Пранішнікава, В. Паленава, І. Левітана — настаўнікаў Бялыніцкага-Бірулі: яго блізкіх сяброў, з якімі ён быў цесна звязаны па-сяброўску і творча на працягу ўсяго свайго жыцця — А. Сцяпанава, С. Жукоўскага, А. Моравава, В. Раждзественскага, А. Грыцая; сучаснікаў, буйнейшых рускіх мастакоў, для якіх пейзаж быў неад'емнай формай самавыяўлення, — А. Архіпава, К. Каровіна, І. Грабара, С. Герасімава, Л. Туржанскага складаюць аснову выставы ў Магілёве. І, вядома ж, работы самога В. Бялыніцкага-Бірулі, сцішаныя і лірычныя, настальгічныя і паэтычныя, прадстаўлены на выставе "Натхненне эцюда" ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь.**

**Захаваныя алейныя эцюды В. Бялыніцкага-Бірулі, прадстаўленыя на выставе, дазваляюць гледачу выявіць логіку работы мастака над карцінай (большая частка эцюдаў гэта закончаныя самастойныя творы, а многія з іх служылі мастаку асновай для стварэння карцін на працягу многіх гадоў), як складваўся ва ўяўленні мастака канкрэтны вобраз прыроды, яе "філасофскі" змест.**

**Марына ТРАФІМАВА,**
**навуковы супрацоўнік НММ РБ**

# Паэтычны мост між народамі

З нагоды выпуску двухтомнай "Антологии белорусской поэзии" (2001 г.) у перакладах Генадзя Рымскага Саюз пісьменнікаў Расіі і выдавецтва "Русский двор" правялі 18 студзеня ў Маскве ў канферэнц-зале СП Расіі вечарыну-прэзентацыю. У ёй бралі ўдзел вядомыя пісьменнікі, літаратуразнаўцы, аматары паэзіі, супрацоўнікі пасольства РБ у Расіі, родныя Г. Рымскага, прадстаўнікі нацыянальна-культурных аб'яднанняў беларускай дыяспары, члены камісіі СБП па творчай спадчыне паэта-перакладчыка Г. Рымскага. Вечарыну вёў сакратар праўлення СП Расіі М. Пераяслаў. Ён казаў пра асаблівасці аўтарскай анталогіі, унёсак СП Расіі ў яе падрыхтоўку і выданне. Дырэктар выдавецтва "Русский двор" В. Вароніна распавяла пра плённае супрацоўніцтва з Г. Рымскім, з якім пачалася перапіска аб рабоце над анталогіяй адразу ж пасля выхаду зборніка "Белорусская лирика XIX—XX веков" у яго перакладах. Напрыканцы мінулага года анталогія выйшла ў свет, і гэта здарылася праз 40 гадоў пасля папярэдняй, выдадзенай у Маскве.

Прамоўцы гаварылі пра ўдалае перастварэнне перакладчыкам твораў беларускіх аўтараў. "Выдатныя пераклады. Наватарская, высакародная праца СП Расіі, — сказаў старэйшы знаўца беларускай паэзіі і выкладчык Літінстытута А. Уласенка. — Трэба ўзнавіць факультэт перакладчыкаў у Літінстытуце, бо патрэба ў кваліфікаваных перакладчыках у цяперашні час вялікая. Мы павінны глыбока вывучаць беларускую літаратуру, бо беларуская паэзія — самая-самая сяроД славянскіх літаратур, прашу паверыць мне, украінцу па паходжанні".

"Выдатны двухтомнік, — сказаў пісьменнік А. Кажадуб. — Гэта свята, сапраўднае, вялікае і для Беларусі, і для Расіі. Я падрыхтаваў праграму сумесных выданняў расійскіх і беларускіх пісьменнікаў. Друкуем творы В. Быкава, яны запатрабаваны чытачом".

З насычанай, праблемнай, глыбокай прамовай выступіў А. Каўка: "Трымаю ў руках двухтомнік і маю пачуццё цеплыні і ўдзячнасці. Арыгінальна, трапятліва, густоўна выкананая работа! "Русский двор" зрабіў святы пачын. Яго неабходна падтрымаць, пераклаўшы "невядомага Купалу", нацыянальнага прарока, выразніка беларускай ідэі, выкладзенай у цудоўным вершы "Годзе..." Без нацыянальнай ідэі беларускаму народу цяжка застацца самім сабой..."

Гучалі на вечарыне вершы на беларускай і рускай мовах беларускіх паэтаў і самога Г. Рымскага, нізка новых твораў якога змешчана ў анталогіі.

**М. САВІК**

# Новае пра мастака Геду

Нядаўна сталі вядомы падрабязнасці жыцця 1920—1940 гадоў вядомага беларускага мастака Канстанціна Мікалаевіча Геды. Творчая спадчына магілёўскага творцы заўсёды выклікала цікавасць даследчыкаў беларускага мастацтва даваеннага часу.

Пра яго творчасць вядома па каталогах, публікацыях. Шмат новага далі даследаванні ў архівах Масквы. Напрыклад, вядома, што яшчэ ў маладыя гады яго творы выклікалі цікавасць у настаўнікаў Магілёўскага рэальнага вучылішча. На першай выставе вучнёўскіх работ Віленскай навучальнай акругі творы яго (як напісана ва ўступе да Каталога) "прыцягвалі ўвагу". Гэта былі зробленыя алейнымі фарбамі эцюды з жывёл і "па-мастакоўску скампанаваныя і выкананыя сепіяй віньеткі, на якіх паказаны моманты школьнага жыцця".

Гэта быў 1910 год. Потым — гады спасцціжэння прафесійных тайнаў у сценах Маскоўскага вучылішча жывапісу, скульптуры і дойлідства (1914). У 1924 годзе Канстанцін Геда — актыўны ўдзельнік мастацкіх выставак у Магілёве і Мінску. Амаль да 1941 года працягвалася яго праца мастака-стваральніка гістарычных палотнаў пра грамадзянскую вайну. Яны называліся "У атаку", "Першая конная", "Паўстанне сялян 1748" і інш. Дарэчы, твор "Атака" быў надрукаваны на старонках "Звязды" 12 лістапада 1940 года. Шматлікія выстаўкі (перасоўныя, рэспубліканскія) дапамагалі гледачу больш дасканала знаёміцца з жывапіснай манерай мастака, яго магчымасцямі кампанаваць вялікія формы на палотнах.

Асаблівага майстэрства дасягаў Геда пры перадачы руху коней, пра якіх ведаў амаль усё. Нездарма, коні станавіліся "галоўнымі дзеючымі асобамі" найбольш вядомых яго палотнаў.

І вось навіна. Пляменнік жонкі Канстанціна Геды — Алег Барысавіч Макаранка з Магілёва прывёз у Нацыянальны мастацкі музей некалькі работ мастака, каб на "справе" пераканаць, што гісторыя пра мастака Геду не закончылася. Зараз сталі вядомы некаторыя новыя біяграфічныя звесткі: у 1943 г. сям'я Геды з'ехала на Захад. Спярша жылі ў Чэхіі, потым — у Аўстрыі, а зараз засталася адна дачка — Ірына, якая жыве ў Аргенціне. Сам мастак памёр у 1977 годзе ў Аргенціне. Там захоўваюцца і творы Геды. Менавіта пра гэта распавядаў Алег Барысавіч, які, на наш погляд, робіць вялікую справу збераження каштоўнасцей беларускага мастацтва даваенных часоў. Бо, на жаль, менавіта перыяд 20—30-х гадоў у станаўленні беларускага мастацтва мае шмат "белых плямаў".

Магчыма, з дапамогай дачкі Канстанціна Геды — Ірыны Канстанцінаўны, яе стрыечнага брата — Алега Макаранкі гэтых цёмных і недаследаваных старонак нашай гісторыі стане меней.

**Л. НАЛІВАЙКА,**
**кандыдат мастацтвазнаўства, вядучы навуковы супрацоўнік НММ РБ**

ЧАСОПІСЫ

# "Кантакты і дыялогі", № 11

Пра асноўную тэматыку гэтага нумара інфармацыйна-аналітычнага і культуралагічнага бюлетэня "Кантакты і дыялогі" сведчыць вынаска на вокладцы: "Беларусь — Расійская Федэрацыя: грамадска-культурнае ўзаемадзеянне". Багаты на цікавыя факты матэрыял дырэктара Цэнтра ўкраіназнаўчых і беларусазнаўчых даследаванняў Інстытута славяназнаўства Расійскай акадэміі навук Ю. Лабынцава "Беларускія пратэстанцкія эмігранты ў Заходняй Еўропе і іх уклад у развіццё рускай культуры новага часу: Ілья Капіевіч". Аўтар прыходзіць да высновы: "Уся кнігавыдавецкая дзейнасць І. Капіевіча і яе вынікі — гэта, хутчэй, самы пачатак уваходжання Расіі ў маштабны агульнадзяржаўны кантакт з заходнееўрапейскай навукай і культурай, пачатак спробаў такога ўваходжання, або, дакладней, знаёмства з еўрапейскім светам. І ў гэтым роля беларускага пратэстанцкага эмігранта І. Капіевіча, які правӗў юнацкія гады ў Маскве, а потым апынуўся на Захадзе, — даволі значная і ідавочная". Навуковы супрацоўнік Інстытута мовы, літаратуры і гісторыі Карэльскага цэнтра РАН Н. Прушынская ўдакладняе некаторыя моманты жыццяпісу свайго бацькі ("Новыя звесткі да біяграфіі пісьменніка А, Мрыя (Андрэя Шашалевіча)"). Прынамсі, гэта тычыцца яго нараджэння, стасункаў з іншымі літаратарамі. Цікавае выступленне прэзідэнта Маскоўскага клуба беларусаў і Міжнароднай асацыяцыі дзелавых людзей "Сябры" А. Кандыбы "Сябры" пачынаюць аб'ядноўваць дзелавых людзей свету". Аўтар расказвае пра тую работу, што вядзецца ў Маскве і рэгіёнах Расіі па згуртаванні беларусаў, прыводзіць прозвішчы тых, хто ўваходзіць у склад Маскоўскага клуба беларусаў. А гэта не адзін дзесятак знакамітых людзей — дзяржаўных дзеячаў, прамысլоўцаў, пісьменнікаў — усіх тых, хто ў далечыні ад Радзімы не забывае, што ён беларус і прымае захады для таго, каб паміж беларусамі, незалежна ад месца іх пражывання, усталяваліся цесныя кантакты. Як сведчыць А. Кандыба, "атрымана пасведчанне аб рэгістрацыі нашай клубнай газеты "Сябры". Цяпер заканчваецца фарміраванне рэдакцыйнай калегіі. Мы спадзяёмся, што з лістапада газета будзе выдавацца на 16 старонках. Яна будзе шырока распаўсюджвацца не толькі ў Расіі, але і за мяжою — магчыма, у 50 дзяржавах свету, дзе жывуць беларусы". А яшчэ А. Кандыба сведчыць: "Мы спрыяльна, адкрыта ставімся да ўсіх тых, хто захоча ўступіць у нашу арганізацыю і яе падраздзяленні, хаця да масавасці не імкнёмся. Уся работа, што праводзіцца намі, накіравана на сумесныя з кіраўніцтвам Беларусі дзеянні па стварэнні моцнай, арганізаванай беларускай дыяспары — супольнасці выхадцаў з Беларусі, землякоў і іх сяброў, якія жывуць за межамі сваёй Радзімы. Вельмі важнымі нам уяўляюцца дзеянні па выпрацоўцы і ажыццяўленні дзяржаўнай праграмы "Беларусы ў свеце", прапагандзе культуры, традыцый і дасягненняў беларускага народа, "прасоўванне" беларускіх тавараў і тэхналогій на расійскі і міжнародны рынак". Кандыдат геаграфічных навук, выкладчык факультэта міжнародных адносін Беларускага дзяржаўнага універсітэта І. Захаранка ў артыкуле "Беларускае ўсходазнаўства" знаёміць з тымі захадамі, што рабіліся ў розны час прадстаўнікамі Беларусі ў галіне лепшага вывучэння і спазнання Усходу. А доктар філалагічных навук, загадчык Расійскай нацыянальнай бібліятэкі М. Нікалаеў знаёміць з адным з важных мерапрыемстваў, што прайшлі апошнім часам, — канферэнцыяй "Санкт-Пецярбург і беларуская культура". Змешчаны і шэраг іншых матэрыялаў. А. Мальдзіс ("Амбасадар кітайскай культуры. І не толькі кітайскай...") прамаўляе слова пра вядомага паэта і старшыню праўлення Таварыства "Беларусь — Кітай" А. Вярцінскага, якому нядаўна споўнілася 70 гадоў. Друкуецца верш С. Панізніка "Анатолю Вярцінскаму на дзень яго нараджэння". У раздзеле "Беларусы і ўраджэнцы Беларусі ў свеце" прапануюцца персаналіі Г. Гарэцкай, Л. Ганчаровай, А. Жэбрака. Інфармацыйна насычаны раздзел "У Беларускім ПЭН-цэнтры". Можна пазнаёміцца з рэцэнзіямі на новыя кнігі. Э. Дубянецкі разглядае "Гісторыю і міфы" В. Грыцкевіча. М. Тычына аналізуе зборнікі маскоўскай ВНУ, у якіх закранаецца беларуская праблематыка. І як заўсёды, каштоўную паслугу шматлікім зацікаўленым чытачам акажа раздзел "Надрукавана пра кантакты ў Беларусі і свеце".

**А. М.**

# "Беларуская думка", №1

Нумар адкрываецца калядная казкай М.Шэлехава "Краіна зайцаў". Раздзел "Літаратура і жыццё" прадстаўлены вершамі С.Страбковай і пачаткам "Ненапісанай аповесці" І.Пташнікава. У раздзеле "Крытыка і бібліяграфія" змешчаны рэцэнзіі А.Волака на кнігу Аркадзя і Юрыя Русецкіх "Художественная культура Витебска с древности до 1917 года" ("Віцебск: культурная візітоўка") і С.Чубакова на манаграфію А.Звознікава "Гуманизм и христианство в русской литературе XIX века" ("Гуманізм рускай класікі"). Часопіс працягвае рубрыку "Да 120- годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа". Гэтым разам Ю.Цвяткоў выступае з артыкулам "Кіно, распятае на крыжы", у якім расказваецца, як у розны час экранізаваліся творы двух класікаў нацыянальнай літаратуры. "На скразняковых вятрах эпохі" — слова А.Марціновіча, прамоўленае ў сувязі з юбілеем Б.Тарашкевіча.

# "Крыніца", № 2

У другім нумары часопіса "Крыніца" апублікаваны творы Уладзіміра Арлова, Аляксея Белага, Міколы Купрэева, Аксаны Забужкі і Барыса Сачанкі.

У рубрыцы "Ты" падаецца "постаць" Уладзіміра Арлова: змешчана яго інтэрв'ю з Юрыем Станкевічам, а таксама філасофскае апавяданне "Ордэн Белай Мышы".

Рубрыка "У нас" адкрываецца падборкай вершаў Аляксея Белага. У гэтай жа рубрыцы друкуецца фантастычная аповесць Міколы Купрэева "Пастух у космасе".

Публікуецца заканчэнне перакладнога рамана Аксаны Забужкі "Палявыя доследы ўкраінскага сексу" (з украінскай мовы гэты твор пераклалі Алесь Астраўцоў і Галіна Булыка). Раман змешчаны ў рубрыцы "Яна".

Працягваецца публікацыя дзённікаў Барыса Сачанкі "З запісак рэдактара...". Дзённікі надрукаваны ў рубрыцы "Наша".

**С. Я.**

# ЭЦЮДЫ

Васіль ЗУЁНАК

## Далёка — блізка…

Ад хаты — да рэчкі за агародамі: як гэта было далёка! Бяжыш, бывала, калі прыхопяць прыцемкі, — і сэрца ёкае, заходзіцца: хаця б з кім-небудзь не спатыкнуцца са страшным…

А зараз выйшаў: як усё яно блізенька — метраў дзвесце, калі стаць на палавіне гэтай, такой доўгай калісьці, дарогі…

Ці не гэтак і з жыццём: пачыналася — аж дух займала ад бязмежжа, — настолькі ўсё далёка, канца-краю не відаць. А стаў, адолеўшы палову, — пабачыў: да вусцішнасці блізка ўсё. Ад калыскі да… — як зараз ад хаты да рэчкі…

Зрэшты, цяпер ужо і не рэчкі зусім, а канавы. Рэчкі няма, няма лазняку, алешніку, крушыннiку, няма ўзбалоткаў, што нараджалі столькі вясновага шматгалосся. Глуха зараз у наваколлі. Здараюцца рэдкія галасы — і знаёмыя, і дагэтуль не пазнаныя. Але няма Свята — Свята Вясны: няма салаўя…

Анямела і вёска. Няма песні — жывой, з душы ў душу. Усё, дарэшты, перасялілася ў "скрынку": і хаты, і людзі. Голас чалавечы нібы атрафіраваўся, адмёр, калі не лічыць некалькі зыкаў п'янага бузацёрства ды лаянкі…

## Дзе яшчэ знойдзеш…

Вось яна — наша абсмяяная злаcліўцамі, занядбаная, наша родная, наша беларуская мова, — дзе яшчэ знойдзеш такое (хіба ў ангельскай? – дзе, бывае, на тузін паняццяў — адно-адзінае слова…):

"Прабегшы некалькі хат, Арцём звярнуў на агароды, шуснуў у каноплі, адтуль разораю між капусты забег у надворак Юркі Труса, з надворку заламаў у вулачку і пасучыў да калодзежа…" — дзе знойдзеш такое, паўторым, багацце?..

А Якуб Колас — знайшоў: "прабегшы — звярнуў — шуснуў — забег — заламаў — пасучыў", — гэта, як быццам, не толькі, каб намаляваць стан і спосабы "перамяшчэння ў прасторы" крыху "хлесянуўшага" (!) Арцёма, што ўцякае ад жонкі (а яшчэ ж і "прывязку да мясцовасці" дададзім: "на агароды… у каноплі… разораю між капусты… у надворак… у вулачку… да калодзежа…"), — дык вось "не толькі…", але, здаецца, і каб даць добрае заткала на рупары тых, хто трубіць аб нейкай беднасці беларускай мовы…

А дзядзька ж Колас, бадай, не ўвесь арсенал тут скарыстаў!..

## "Извини" — і "выбачай"…

Выкладчык моў Полацкага духоўнага вучылішча Іосіф Парфіравіч Цытовіч выдрукаваў у пецярбургскім часопісе "Маяк" (1843 г.) "Слова два о языке и грамотности Белой Руси", дзе працытаваў, "для образчика только, современное произведение белорусской лиры, замечательное… и по изложению, и по содержанию…", "…чтоб показать, как гибок и послушен язык воле поэта…"

Хто ён быў, гэты "паэта", што вітаў са сваёю музай "в именинный день одного протоиерея", — невядома. Але вершык, сапраўды, лёгкі, іскрысты, усмешлівы, — па складзе сваім блізкі да славутага "Тараса на Парнасе":

*…Так во, татусь, якім случаем*
*У хату мы тваю зайшлі,*
*Хоць хлеба-солі тут не маем.*
*Ты ізвіні, што так прыйшлі.*
*Хоць ты, то праўда, і не маеш*
*У гасцінцах нужды ні якой,*
*Хоць недастатка ты не знаеш,*
*Багат і салам і мукой,*
*Закон вяліць без хлеба-солі*
*Нікуды не хадзіць ніколі…*

Зусім зразумела і натуральна: "прастамоўе", мова "простага люду" адпавядае жанру — "застольнаму вітанню" (з гэтага "прыёму" карысталіся і "рускамоўныя", і "польскамоўныя" асяродкі тагачаснага грамадства на Беларусі), — і "русізмы", зважаючы на стан распрацаванасці (а дакладней — не распрацаванасці) літаратурнай мовы, непазбежныя тут і выбачальныя… І каб не гэтае, апошняе, што само "напрасілася", слова — "выбачальныя", — можна было б толькі і канстатаваць: якая ўсё ж яна, мова гэтага "жарціка", далібог, жывая і, як сказана, гнуткая… Адно "татусь" (як зваротак да культавага служкі — "отец", "батюшка") чаго вартае!.. А сінтаксічны лад: "Хоць ты, то праўда, і не маеш…", — кароценькае "то" якім "светлячком" высвечвае яно адасобленае, пабочнае, слова "праўда"…

Але ж: "выбачальныя" — моўленае слова раптам "паказала пальчыкам" на радок: "Ты ізвіні, што так прыйшлі…"

Тут і падумалася: а цікава ўсё ж — чаму "извини" і чаму "выбачай"?.. Не ў канкрэтным выпадку, а наогул… Не так жа гэта проста адно і тое ж паняцце абрала для свайго моўнага выяўлення розныя "карані"… Прыгледзімся… "Извини" — яўнае адчуванне "віны": ты "па-вінен" прынесці… — ці не "традыцыя" гэта, калі ішлі з "ясаком"?.. Калі нічога не прынёс — дык што ты і за госць гэтакі… і чаго прывалокся?.. З-за гэтага і просьба: "из-вини" — "выведзі з (з-пад) віны"…

А вось "вы-бачай" — зусім іншы "паварот": як бы шляхетнасцю пазначаны, калі не "вялікасвецкасцю", дык натуральнай чалавечай тактоўнасцю (з абодвух дзейных бакоў). Што б там ні было — паводзь сябе, як бы нічога, няёмкасці нейкай, і не заўважыў: выведзі здарэнне", "няёмкасць" гэтую, за "межы бачымага" ("вы-бачай")… Лексічны, моўны штрышок — а які этычна-паводзінны змест стаіць за ім!..

А таму — і ў гэтым прыватным выпадку — хочацца паўтарыць пытанне, прамоўленае тым жа часопісам "Маяк" датычна стаўлення грамадства Краю да ўсяго роднага, крэўнага, свайго: "Что ж удерживало просвещенных кривичей? Ложный стыд за свою родину: куда де ей соваться за другими!.."

"Извини" — і "выбачай", народзе мой беларускі, — сціпласць твая невымерная — аж на шкоду самому сабе…

## "Будан" і "кватэра-свет"

Калі ў паэтаў заводзіліся грошы, а разам з тым, натуральна, з'яўлялася пляшка, Анатоль Астрэйка гаварыў: "Хлопцы, пайшлі да мяне ў будан (так па партызанскай звычцы называў ён кватэру): у мяне мора закусі…"

Адкрывалі халадзільнік — а там, звычайна, ляжала цыбуліна і луста хлеба — перахалоджаная і высмяглая, а можа, нават і надкусаная.

Гэта вясёлая завядзёнка мела працяг і на Лысагорскім лецішчы: сваю, заўжды гасцінна адчыненую, хату паэт і тут называў "буданом".

І раней, і цяпер, калі праходжу міма "будана", што не адзін год ужо маркоціцца, жыве самотна — без гаспадара, — згадваю і тую лусту з цыбулінай і шчымліва-сумныя радкі з кароценькага верша Анатоля Астрэйкі, які чыталі мы ў студэнцкія часы (здаецца, у часопісе "Беларусь"), — пра сціплае жаданне паэта мець "чэсны кавалачак хлеба, трошачкі ласкі тваё…" (пра "мора закусі" да нас "звесткі" яшчэ не даходзілі), — радкі, з якімі мы — ну ніяк! — не маглі пагадзіцца: хіба ж гэтак можна "здрабняцца" ў эпоху гіганцкага размаху, шукаць "ціхі" куточак на магістралях сусветна-рэвалюцыйнага наступу (Куба, Афрыка, Паўднёвая Амерыка, Блізкі і "далёкі" Усход!..)… "Змяні свой вузенькі настрой на шырыню людскіх настрояў…" — аргументавалі мы радкамі яшчэ аднаго паэта. А Генадзь Бураўкін, адзін з самых гарачых удзельнікаў тых інтэрнацкіх дыспутаў, на верш Анатоля Астрэйкі адказаў вершам жа — па прынцыпе супрацьлегласці — з сусветна-маштабным жаданнем: "каб… увесь свет быў маёю кватэрай…"

Даўно забыліся ці ўспамінаюцца з усмешкай тыя нашы па-юнацку максімалісцкія, задзірыстыя парыванні, бо:

*Хто раней,*
*хто пазней,*
*Толькі ўсе*



*Зноў і зноў*
*Мы прыходзім*
*Да простых,*
*як хлеб і паветра,*
*Высноў…*

Гэта ўжо голас Генадзя Бураўкіна — сталага, майстра паэзіі, з мудрай вышыні пражытага і перажытага. Але: "як хлеб і паветра…" — вось ён той самы — не забыты — "кавалачак хлеба"…

А "сусветная камуналка"? І яна пачула сваё, адпаведнае:

*І найбольшым багаццем*
*(Лепш не знойдзеш нідзе) —*
*Быць у матчынай хаце*
*Паміж родных людзей… —*

сказана праз сорак год пасля "камуналкі" — у новай кнізе "Паміж зоркай і свечкай".

Паміж зоркай і свечкай… Адлегласць, як паміж "кватэрай-светам" і матчынай хатай…

*Дрэмлецца мірна на лаўцы*
*рудому катку.*
*З-пад рушнікоў абразы*
*узіраюцца строга.*
*Хата падмецена.*
*Венік прыткнуўся ў кутку.*
*Цёпла і ўтульна,*
*Нібыта за пазухай Бога.*

Гэта зноў там — паміж зоркай і свечкай. Там, дзе стала прапісана, творча жыве душа паэта. Там, дзе матчына хата…

"Ідыліяй" назваў гэты верш Генадзь Бураўкін. Здаецца, у згодзе з той, даўняй, паэтычнай "ідыліяй" Анатоля Астрэйкі…

## Рытмы і мерны аршын

У паэтычным томе Яраслава Смелякова "Работа и любовь", томе выбранага, які пэўным чынам падсумоўвае вынікі творчай працы паэта на парозе яго пяцідзесяцігоддзя, вершы скампанаваны па часавых раздзелах: "Шестидесятые годы", "Пятидесятые годы", "Сороковые годы", "Тридцатые годы"…

Дык вось: з 66 "шасцідзесятнікаў-пяцідзесятнікаў" ледзь не палова — 27 — "закальцаваныя" ў адзін памер, той, што знаёмы ўсім па першым чатырохрадкоўі пушкінскага "Яўгенія Анегіна":

*"Мой дядя самых честных правил,*
*Когда не в шутку занемог,*
*Он уважать себя заставил,*
*И лучше выдумать не мог…"*

59 вершаў двух "ранейшых" (па напісанні, а не паводле кампазіцыі кнігі) раздзелаў "дапусцілі" ў сваю сябрыну ўсяго толькі адзіны такі экземпляр…

Нічога не маючы супраць "анегінскага ямба" і не адмаўляючы прысутнасці ў першых двух раздзелах вершаў прыстойных, заўважым, аднак, што лепшыя са створаных паэтам трэба шукаць у рубрыцы "саракавых—трыццатых"…

А прычына? У кім — ці ў чым?..

Творчае збядненне, знямога вялі да аднастайнасці рытмаў?

Ці аднастайнасць рытмаў жыцця (а як вынік — і рытмаў паэтычных), эпоха застою штурхалі да творчага збяднення?..

Пэўна, і першае і другое разам: узаемнае было ўзаемнае, "працавалі" ў суладдзі, зладжана…

А тыя, лепшыя — інтанацыйна багатыя, непаўторныя — узвышаюцца выносіста, гонка. Назавём іх — як герояў — паіменна, — вось яны: "Хорошая девочка Лида", "Если я заболею…", "Милые красавицы России", "Аленушка", "Любка"…

## Шапку не знімаў…

Бачыў, як ішлі з лецішча на Лысай гары Аркадзь Марціновіч з жонкаю. Не сказаць, што па-старэчы марудна, не спяшаючыся, — не, зусім не. Ішлі яны неяк далікатна, быццам на шпацыры. Як бы і не тычылася іх, што недзе там, за ляском, ёсць паўстанак Зялёнае, і ёсць (хутка будзе!) электрычка, і яе — ого! — ні ў якім разе нельга прапусціць. Трэба спяшацца, трэба паспець, трэба прыбавіць кроку!.. Гэтак і выжыльваліся, задыхана беглі, прыгорбіўшыся пад хатулямі і рукзакамі, "лысагорцы". Бег і я. Пакуль не пабачыў перад сабою іх — Марціновічаў…

А ішлі яны сапраўды прыгожа — якраз у тым рытме і тэмпе, што дыктаваліся настроем і музыкай летняга надвячорка. Ішлі — і любаваліся, і слухалі. Гаманілі паціху, прыпыняліся — ці то над квяцінкай з бухматаю чмялінай песняй, ці то перад берасцянкай, што на хвілінку выскачыла з гнязда, як зваліліся, на сцежку — перахапіць што-небудзь дзеля вячэры… Здаецца, замiралі яны, гледзячы на птушку, — каб не спалохаць. А можа, нават, каб і спытацца пра нешта — пра яе, птушынае. Хіба не цікава гэта чалавеку, тым больш творчаму, а яшчэ больш — празаіку…

Прыпыняўся, зводдаль, і я. Зноў жа, каб не патрывожыць, — але ўжо не птушку, а таемную думу Аркадзя Нічыпаравіча. Па сабе знаю: не варта тут лезці ў вочы… І бачылася мне, як перагортваецца старонка — такой жа няспешнай, задуменнай, не заносістай, але грунтоўнай, як гэты схіл працоўнага дня, — ягонай прозы…

Так было, пакуль не выбраліся на асфальт, — ёсць такая "цывілізаваная" гарлавіна паміж былымі піянерскімі лагерамі і чыгуначным паўстанкам.

Ось тут і пачалося…

Адна за адной, адна за адной, і насустрач, і наўздагонкі — імчаліся, выгінаючыся па завоінах, то "Волгі", то "Жыгулі", а найчасцей — іншамаркі, назвы якіх мне і ведаць не дадзена было. І рулявалі ў большасці — гэта я ўжо ведаў — нашчадкі былых (ды і тымчасовых) гаспадароў жыцця, што ўхапілі на "перабудовачнай дзяльбе" свой "кавалак" з партыйна-камсамольскіх (ды і не толькі) рахункаў — у якасці самых давераных асоб, каб "зберагчы" сродкі для "будучых класавых баёў"… Зберaглі, канечне… Толькі, выявілася, што для сябе. Бо "заначка" тая зрабілася як бы безгаспадарнай, а таму і асела ў "давераных" кішэнях. Заадно трапілі туды і "пазыкі", шчодра "прафінансаваныя" за кошт укладаў працоўнага люду ў ашчадныя касы, — на "чорны" ці на "смяротны" дзень. Сталіся "стартавым капіталам" для наваяўленых "бізнесменаў"…

Уся гэтая брацiя і газавала зараз па асфальце, разганяючы, як раскідваючы ці распырскваючы, люд па абочынах… Дабаўляліся і "пралетарскія" "транспартныя сродкі": лёталі дзікія матацыклісты-падшывальцы, — не раўнуючы, як чэрці з чыгункамі-каскамі на галовах…

Зачуўшы маторны трэскат і вэрхал, Марціновічы — зноў жа няспешна — прыпыняліся, а потым ужо збочвалі з дарогі.

(Заканчэнне на стар. 14 — 15)

## З'езд завяршаецца заўтра

**XIII з'езду Беларускага саюза кампазітараў папярэднічала некалькі канцэртных праграм: камерная аўтарская вечарына І. Лучанка; выступленне Ансамбля песні і танца, а таксама галоўнага аркестра Узброеных Сіл РБ у Доме афіцэраў з прэзентацыяй твораў каля 20 айчынных аўтараў; імпрэза Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі з удзелам кампазітара В. Кандрасюка; арганная беларуская музыка ў выкананні салісткі Канцэртнай залы Полацкага Сафійскага сабора К. Пагарэлай...**

**Першае пленарнае пасяджэнне прайшло 25 лютага, нягледзячы на тое, што да кворуму не хапала каля двух дзесяткаў чалавек, дэлегаты паказалі сапраўды творчы падыход да праблемы, палічыўшы з'езд правадзейным. У яго адкрыцці ўдзельнічалі высокія афіцыйныя асобы: памочнік Прэзідэнта Беларусі І. Карэнда, міністр культуры краіны Л. Гуляка, госці з Польшчы, Расіі, Украіны. Незвычайным прывітаннем з'езду і парадай маладзейшым калегам прагучала фанаграма голасу патрыярха нашай кампазітарскай школы, 88-гадовага прафесара А. Багатырова, шаноўны ўзрост якога не дазволіў яму наведаць залу пасяджэння.**

**Са справаздачным дакладам праўлення выступіў кіраўнік Саюза кампазітараў І. Лучанок. Прагучалі дзесяткі прозвішчаў кампазітараў і музыказнаўцаў, якія за мінулыя 5 гадоў зрабілі свой унёсак у самыя розныя жанры творчасці, паспрыялі распаўсюджванню сучаснай беларускай музыкі за межамі краіны. Асаблівае месца ў дакладзе занялі словы ўдзячнасці за клопат, які адчуваюць нашы творцы з боку дзяржавы. Разам з тым, была выказана і вялікая трывога за сённяшняе матэрыяльнае становішча саюза, пазбаўленага фінансавання з бюджэту, што пагражае самому існаванню творчай суполкі, а значыць, можа зрабіць непапраўную шкоду культуры.**

**Старшыня рэвізійнай камісіі К. Цесакоў выступіў з усхваляванай прамовай, уразіўшы, прынамсі, фактамі злоснай няўплаты членскіх узносаў на працягу 3-4 гадоў людзьмі досыць вядомымі, шаноўнымі і, даруйце, не самымі апошнімі па ўзроўні заробкаў.**

**Да глыбіні душы кранальным быў фінал першага пленарнага пасяджэння: у зале сталічнага Дома дружбы, дзе яно адбывалася, прайшла прэм'ера дакументальнага фільма, прысвечанага выдатнаму кампазітару мінулага стагоддзя, незабыўнаму, яркаму чалавеку — Я. Глебаву. Парадаксальны фільм-помнік: у кадрах — *жывы* чалавек, якім захавала яго памяць сям'і, самаадданай жонкі, стваральніцы гэтай стужкі, — Л. Глебавай, памяць сяброў...**

**Заўтра — другое і заключнае пасяджэнне з'езда.**

**С. Б.**

## Ад Еўфрасінні Полацкай — пачатак

**Віцебская зямля ўзгадавала шмат выбітных постацяў, вядомых усяму свету. Еўфрасіння Полацкая, Францішак Скарына, Сімяон Полацкі, Васіль Цяпінскі, Ян Баршчэўскі, Вацлаў Ластоўскі, Уладзімір Караткевіч — імёны, якія маглі б зрабіць гонар любой краіне. Віцебшчына — сапраўдная калыска і літаратурных талентаў. Пра гэта сведчыць і дзень сённяшні. В. Быкаў, Р. Барадулін, Г. Бураўкін, С. Законнікаў, Я. Сіпакоў, А. Дудараў, А. Вярцінскі, У. Арлоў, А. Петрашкевіч ды шмат іншых вядомыя не толькі ў Беларусі. Гэтыя творцы — сумленне нашага народа.**

**Даведнік "Пісьменнікі Віцебшчыны", выдадзены высілкамі ўпраўлення культуры Віцебскага аблвыканкама і Віцебскага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў, якраз і распавядае пра майстроў мастацкага слова. Ён складаецца з двух раздзелаў. У першым — "Пісьменнікі — ураджэнцы Віцебшчыны" — даецца спіс літаратараў па кожным раёне з пазнакай датаў жыцця і месца нараджэння. Пачатак гэтага спіса сягае ў далёкае мінулае. Пералік імёнаў ахоплівае амаль дзевяць стагоддзяў: ад Еўфрасінні Полацкай, якой сёлета спаўняецца 900 гадоў, да самай маладой паэткі Леры Сом.**

**У раздзеле "Літаратары Віцебшчыны: дзень сённяшні" ёсць звесткі пра Віцебскую філію Саюза беларускіх пісьменнікаў, змяшчаецца фотаздымак кожнага сябра і біябібліяграфічная даведка пра ягоную творчасць. У складзе абласнога аддзялення літаратараў — 28 творцаў. Яно заснаванае ў 1980 годзе, мае Полацка-Глыбоцкую філію і выдае альманахі "Дзвіна" (Віцебск), "Наддзвінне" (Полацк), "Далягляды" (Глыбокае). Насамрэч у вобласці значна больш літаратурных талентаў, каля 100 асобаў, якія яшчэ не ахопленыя сяброўствам у Саюзе прафесійных пісьменнікаў. Некаторыя з іх маюць свае кніжкі, актыўна выступаюць у перыядычным друку. Усе разам яны і вызначаюць літаратурнае жыццё Віцебшчыны.**

**Акрамя таго, у даведніку ёсць звесткі пра Таварыства вольных літаратараў, што паўстала ў 1993 годзе ў Наваполацку, а таксама пра літаратурныя музеі вобласці.**

**Выданне пад рэдакцыяй кіраўніка Віцебскай філіі Саюза пісьменнікаў Франца Сіўко пабачыла свет дзякуючы падтрымцы ГА "Фонд імя Льва Сапегі".**

**Ірына ЛЯКСЕЕВА**

# ЭЦЮДЫ

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 13)*

Чакалі, пакуль, абдаючы газавым смуродам, пранясецца чарговая "тачка" з "рулявым", што заносіста і з неаспрэчнай перавагай кідаў касы позірк на пешых "дачных няўдачнікаў"...

Чакаў Аркадзь Нічыпаравіч, здаецца, цярпліва, але без почату. І нават вочы — не тое зусім, што перад берасцянкаю, — убок адводзіў...

Шапку не знімаў. І не кланяўся...

### Маснічка ў свет сунічны...

Здаецца, лёс ад самага пачатку творча спрыяў Алене Якаўлевай — яе паэтычныя мроі шчасліва супалі з паэтычнай аўрай роднай вёскі: Ігрушка...

Прамовіш адно толькі — назву — і ўжо ва ўяўленні адразу ўзнікаюць белыя сады ў вясновай квецені. І дзесьці на ўскрайку поля, на мяжы, — летуценная, задумная, светлай аблачынкай — ігруша...

Я сам мог бы засведчыць гэта. Не злічыць, колькі разоў мой шлях дадому і з дому — то на закалываным аўтобусе, то на спадарожнай машыне, а то, здаралася, і *пешкі — перасякаў гэтую вёску: так —* папярок Ігрушкі — ляжыць дарога, калісьці брукаванка з каркаломнымі выбоінамі, цяпер — асфальтаваная шасейка...

Дык вось: мог бы засведчыць... А чаму ж і не: сады тут ёсць, — нават, усцяж дарогі, вялізны, калгасны, — праўда, запушчаны, амаль здзічэлы... І ўсё — яблыні, яблыні... А вось ігрушы — не давялося ніводнай пабачыць...

І тады ўяўленне міжволі скіроўвала развагі да іншай "этымалагічнай каляіны": а можа, "Ігрушка" — зусім і не ад "ігрушы" найменнем абзавялася?... Ёсць жа тут, у нашых мясцінах, і яшчэ адна вёска — Ігрышча. А цераз, так скажам, поле ды балота ад Ігрушкі — Шчаўры, дзе, як засведчыў Дунін-Марцінкевіч (у "Шчароўскіх дажынках", — цікава: а чаму не "шчаўроўскіх"?.. — **В. З.**), "Домка на ігрышчах з Тадоркай танцуе"...

Дык ці і не тут — а месца падыходнае якраз: круты пагорак спадае да (калісьці ж, пэўна, бруістай) рачулкі, а хутчэй, крыніцы, — ці не тут збіраўся ў даўніну навакольны люд — абмыцца жыццядайнай, асвечанай рачнымі багамі, вадой, ці не тут наладжваліся язычніцкія вясновыя ігрышчы?..

Так ці інакш, а Ігрушка — вёска паэтычная.

Тым больш, што і тая самая, чаканая, ігруша зацвіла ў гэтым куточку. Не магла не зацвісці. Яна аб'явілася паэтычным словам. І слова гэта было прамоўлена вучаніцай Ігрушкаўскай школы Ленай Якаўлевай...

Падрастала дзяўчынка. Вясновая квецень прыносіла першы плён: вершы Алены друкаваліся ў часопісах "Маладосць", "Першацвет", "Бярозка", "Вясёлка"... Пазнаёміў з яе паэзіяй сваіх чытачоў і штотыднёвік "ЛіМ".

За гэты час Алена Якаўлева скончыла сярэднюю школу — з сярэбраным медалём, прайшла вучобу і ў рэспубліканскай школе "Юны літаратар" пры акадэмічным Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы. Натуральным быў і выбар далейшага шляху: Алена паступіла на вучобу ў літаратурны інстытут (Масква).

Год атрымання дыплома супаў з выхадам у выдавецтве "Юнацтва" кніжкі вершаў Алены Якаўлевай для дзяцей.

А зараз яна ідзе да чытача са зборнікам лірыкі.

Паэтычны голас Алены Якаўлевай не гучны, але шчыры і пранікнёны, панароднаму просты і мудры:

# НАЧНЫЯ ЎСПАМІНЫ

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 5)*

Наталевіча, называўся "паляўнічы домік". Але Наталевіч "пагарэў" — дарослыя дочкі пахрысціліся, быццам бы тайна ад бацькі. Але нічога не застаецца тайнай. Старшыню катапульціравалі з яго крэсла. Шчодры Панамарэнка аддаў дом пісьменнікам, якіх тады было чалавек пяцьдзесят, членаў саюза.

У доме было 14 пакояў. Сталоўка была воддаль — метраў за дзвесце ад дома. Адтуль Наталевічу насілі прысмакі, а мы хадзілі туды сёрбаць капусту і есці дранікі, іх там выдатна пяклі, асабліва калі дырэктарам была Шпілеўская Лідзія Міхайлаўна. Якая гаспадыня была! Памерла ад аперацыі апендыцыту. Мы плакалі па ёй, як па маці.

У "творчы перыяд" (восень, зіма, ранняя вясна) дом цалкам апраўдваў сваю назву: пісьменнікі сяліліся па адным у пакоі (неаспрэчнае правіла) і апантана тварылі. А пад вечар ішлі ў Апчак у краму, здаралася, па снезе вышэй калена. Жылі, як паэты ў Блока:

***...Там жили поэты, —***
***и каждый встречал***
***Другого надменной улыбкой.***
***Напрасно и день светозарный вставал***
***Над этим печальным болотом.***
***Его обитатель свой день посвящал***
***Вину и усердным работам.***

Зальчык сталоўкі невялікі — столікаў на пяць. За агульным сталом можна было размясціць чалавек трыццаць. Ды на верандзе дваццаць. А Броўка чалавек шчодры, багаты і запрашаў па прынцыпе: як бы каго не пакрыўдзіць. Спіс гасцей узгадняў не толькі з блізкімі, але і з намі, калегамі, — з Глебкам, мной, Ткачовым.

Паставілі частку сталоў пад соснамі. Каб ніхто не пакрыўдзіўся, запрасіў дабравольцаў: хто хоча пад сосны? Набралася нямала; там жа лепш: канец чэрвеня, спякотны дзень, адно хіба непрыемна — даймалі камары. Тыя, хто піў пад соснамі, зрабілі адкрыццё: камары, напіўшыся п'янай крыві, не маглі адлятаць — падалі тут жа.

Не буду апісваць застолле і тосты, тосты, безліч тостаў, розных, сур'ёзных, жартаўлівых, падхалімскіх, дасціпных, нашых беларускіх, старажытных і новых, і грузінскіх, грузіны мастакі на тосты.

Мне запомніўся гэты далёкі банкет лепш, чым многія іншыя (а колькі іх было за 55 гадоў актыўнай дзейнасці ў СП і ў Вярхоўным Савеце!), двума эпізодамі, не магу іх назваць ні вясёлымі, ні сумнымі, звычайнымі ці незвычайнымі.

Першы звязаны з маёй каханай жонкай Машай. "Слаўся, Марыя" я пісаў адразу ж пасля таго, як яна адышла ад нас — ад мяне, ад дзяцей, усіх блізкіх — у свет іншы, і я не мог, не пасмеў кінуць і маленькі цень на яе незабыўны вобраз. А ёй былі ўласцівы ўсе чалавечыя якасці. І ў маладосці яна, як бадай усе жонкі, якія кахалі сваіх мужоў, была раўнівая. Але яна была стрыманая і далікатная, і я помню толькі тры выбухі яе апантанай рэўнасці. Ваенны грэх яна мне даравала. А ў гэтых трох выпадках рэўнасць яе была беспадстаўная, быў я чысты, як анёл.

Першы выпадак адбыўся яшчэ ў Пракопаўцы. У суседняй вёсцы Будзішча працавала настаўніцай маладая ўдава, маці сямігадовай дачкі, прозвішча не помню, здаецца, Прышчэпава, а імя — *Каця, Кацярына Дзямідаўна*. Наведваючыся на пошту, у сельсавет, у краму, яна заходзіла да нас, сябравала з Машай. Жартаўніца была. Аднойчы пажартавала:

– Адаб'ю я ў цябе, Маша, Івана. Падабаецца ён мне.

І я хутка заўважыў, што прымала яе Маша без ранейшай прыязнасці.

А потым Каця пераехала ў Гомель на службу ў нейкую ўстанову, галадна было ў вёсцы. І мы на яе бадай забыліся.

Але праз год ці больш, адвёзшы ў "Гомельскую праўду" загадчыку аддзела, добраму сябру майму Абраму Рабіновічу апавяданне, я бадзяўся па горадзе да цягніка і ўспомніў адрас Кацінай канторы, яна паведаміла яго ў пісьме, якое прыслала ў пачатку сваёй новай працы. Зайшоў. Пагутарылі ў агульным пакоі, дзе былі яшчэ дзве супрацоўніцы. Пажартавалі.

Вярнуўшыся дадому, я, прасцячок, шчыра прызнаўся Машы:

– А я заходзіў да Каці.

– Да якой Каці?

Божа мой! Што было! Што было! Шануючы памяць пра жонку, не скажу, як яна паводзіла сябе. Пасля і ёй і мне за яе было сорамна.

Дык вось, нешта падобнае здарылася на Броўкавым банкеце ў "Каралішчавічах". У перапынку, пакуль парадкавалі сталы пасля першага тура, я з групай сяброў гуляў па лесе, дайшлі ажно да азярца — заўсёдны маршрут нашай "творчай" прагулкі. Пэўна ж забавіліся. Вярнуліся, калі госці сядзелі за сталамі, паэты чыталі вясёлыя экспромты.

Я глянуў на Машу, і ў мяне адарвалася сэрца, я ледзьве пазнаў сваю прыгожую жонку, якой у той дзень шмат хто з мужчын і жанчын казалі кампліменты. На ёй, як кажуць паруску, **не было лица**. Сапраўды, твар яе быў... зялёны, а вочы жоўтыя, напоўненыя знішчальным гневам. Са страхам сеў побач. Яна балюча ўшчыпнула мяне за нагу.

– Дзе ты быў? — прашыпела.

– Гуляў з хлопцамі.

– Ведаю, з кім ты гуляў! — ледзьве не на поўны голас сказала яна.

– Маша! На нас людзі глядзяць!

– Няхай глядзяць!

Пасядзелі з паўгадзіны, як незнаёмыя.

– Выйдзем, мне блага.

Я пайшоў за ёй: можа, праўда, дрэнна?

Выйшлі ў лес. Што было!

Атрымаў нават аплявуху. Ці адну?

– Я знаю, з кім ты гуляў! З Ніжнікавай качаўся ў кустах.

– Маша! Жагніся! Якую лухту ты вярзеш? Як ты думаеш пра бацьку сваіх дзяцей і пра яе, у яе таксама дзеці.

– Ведаеш пра яе дзяцей!.. Ад каго яны!..

– Як ты думаеш пра людзей! Мы, можа, разоў пяць сустрэліся на афіцыйных сходах і тут жа палезлі ў кусты качацца? Хворае трызненне!

– А чаму яна прыйшла следам за табой? Дзе яна была?

– Адкуль я ведаю, дзе яна хадзіла, з кім!

Карацей кажучы, даўся мне ў знакі Броўкаў банкет.

Пасля даведаўся, сама Маша сказала: адна з жонак, зайздросніца, правакатарка, сказала Машы, што я пайшоў з Ніжнікавай. Да Тамары, поўненькай, прывабнай, галасістай, славутай, раўнавалі многія жонкі.

А прычыну майго пакарання расказаў сам віноўнік. У гасцях у яго мы ўспомнілі "эпапею", і я прызнаўся, як мне дасталося. На юбілеі прысутнічаў ад СП Украіны мой сябра і перакладчык Васіль Казачэнка. Ён, вясёлы хахол, пайшоў з Тамарай у поле паглядзець, як красуе жыта. Казачэнка расказваў гэта пры сваёй жонцы, нашай зямлячцы — нарадзілася пад Ашмянамі. Ірына Сяргееўна смяялася. І я пазайздросціў Васілю: верыць жонка мужу.

Трэці прыступ Машынай рэўнасці таксама звязаны з "Каралішчавічамі". З дзецьмі адпачывала там улетку. А я мусіў працаваць, бо паехаў на курорт Броўка. Я прыязджаў на выхадны, не кожны вечар нанач. Былі вячэрнія мерапрыемствы.

І зноў правакатарка (гэтую ведаю, але не называю — шаную памяць яе мужа, сябра майго) напляла Машы, што да мяне ў СП штодня наведваецца работніца ЦК камсамола Нэла (прозвішча не помню ўжо), сядзіць у мяне ў кабінеце па дзве гадзіны і ўсім выхваляецца, што Шамякін закаханы ў яе так, што яна можа ў любы час прысвоіць яго. Во заразныя бабы! Была гэта Нэла разы два, рыхтавалі разам з камсамолам нейкую нараду, і гутарыў я з ёй не адзін на адзін — з Міколам Ткачовым, Міхасём Калачынскім, якога Броўка ўзяў другім намеснікам, — саюз рос. І менавіта Міхась трохі заляцаўся да гэтай Нэлы, а звалілі на мяне, без віны вінаватага.

Позна ўначы, гадзін у адзінаццаць, з трыма дзецьмі, Сашу было шэсць, Тані восем, з'явілася Маша дадому. А мяне няма. Дзе ў такі час? Уяўляю, што яна перажыла, як "завяла" сябе. Няшчасная галава мая была б, каб я прыйшоў адзін у гадзіну ночы. Але мы з'явіліся ўдвух: з Віцебска прыехаў мой сябра па партшколе Міхаіл Тараткевіч (пазней ён дарос да прафесара), і мы з ім пайшлі ў кіно на апошні сеанс.

Я дакараў Машы:

– Не сорамна табе перад дзецьмі? Што яны падумалі? На чым вы дабіраліся?

На чым — не сказала ні тады, ні пазней. Так позна машына з Дома творчасці наўрад ці магла ісці. З пісьменнікаў мелі свае машыны Глебка, я, Краўчанка, яшчэ чалавекі тры. "Победы".

Здагадваюся: Маша вяла дзяцей да "магілёўкі" — шашы, да яе кіламетры два ад Дома творчасці, там селі на спадарожную, добры шафёр падабраў жанчыну з трыма дзецьмі. Пасля таго, як нарадзіла Алесю ў 41 год, не было ніводнага, нават маленькага, усплёску рэўнасці. Магла хіба пажартаваць, не больш.

Другі памятны эпізод ляснога банкета. Ад СП СССР на юбілеі прысутнічаў Васілій Смірной, сакратар саюза, галоўны рэдактар "Дружбы народов". Яму было максімум увагі. Алеён, па-мойму, паходзіў са старавераў рускіх:

Планета "ЛіМ"

70

Яшчэ адзін гадок...

Яшчэ адзін віток...

# Запрашаем!

**Шаноўныя сябры! 26 лютага споўнілася 70 гадоў з дня выхаду ў свет першага нумара штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва". З гэтай нагоды ў Доме літаратара 1 сакавіка а 18 гадзіне адбудзецца святочная вечарына. Запрашаем усіх лімаўцаў — і аўтараў, і чытачоў! Будзьма разам!**

*Наступны нумар штотыднёвіка "ЛіМ" выйдзе 15 сакавіка 2002 г.*


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА ЛіМ ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІК

**ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў"**

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА

**У 1982 г. ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

220005, Мінск, вул. Захарава, 19



**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 284-8461
намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985
АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 284-8204
пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985
літаратурнага жыцця — 284-8462
крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985
паэзіі і прозы — 284-7985
музыкі — 284-8153
тэатра, кіно — 284-8153
выяўленчага мастацтва — 284-8462
фотакарэспандэнт — 284-8462
бухгалтэрыя — 284-8462
Тэл./факс — 284-7965





Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79)

Індэкс 63856 Наклад 2626
Нумар падпісаны ў друк 28.02.2002 г. у 17.30
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 1328

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12